E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 12 (17) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ВЕРАСЕНЬ 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС* 63773 http://nchas.iatp.by

# Чаго хочуць дзеці?



**І ў дзень Ведаў, і ў Дзень Беларускай пісьменнасці, і ў Міжнародны дзень барацьбы з непісьменнасцю (9 верасня), і ва ўсе несвяточныя дні вучні зачыненага Нацыянальнага Дзяржаўнага ліцэя імя Якуба Коласа, ходзяць да будынка, дзе атрымоўвалі веды, і пішуць, што хочуць вучыцца ў роднай мове. Чаму ўва ўсіх краінах дзеці вучацца на роднай мове, а ім у сваёй Айчыне вучыцца на спрадвечнай мове беларусаў улада перашкаджае? Насуперак іх жаданню, жаданню іхных бацькоў і гарантыям Канстытуцыі?**

# Імша ў Курапатах



Фота А. Шагуліна

**Напрыканцы жніўня ў Курапатах пратаірэй Леанід Галубовіч правёў для вернікаў службу за памяць пакутнікаў. На службе прысутнічалі архіепіскап Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай народнай царквы (незарэгістраванай) Юры Рыжы, айцец Роберт, дзякан Сяргей. Святары таксама асвяцілі Курапацкія крыжы на месцы масавых рэпрэсіяў.**

# Закрыццё школак

Да 2010 года на Міншчыне ўлады мяркуюць зачыніць 54 пачатковыя, 62 базавыя і 10 сярэдніх агульнаадукацыйных школ. Па дадзеных Упраўлення адукацыі Мінскага аблвыканкама, у той жа час 89 сярэдніх школ будуць рэарганізаваныя ў базавыя, а 22 базавыя – у пачатковыя. У выніку згубяць працу сотні настаўнікаў. Справа ў тым, што ўдзельная вага дзяцей, падлеткаў і юнакоў, якія ствараюць базу школьнага кантынгенту, у 2001 годзе склала адносна 1996 года 92%, а ўжо да 2006 гэтыя суадносіны па дэмаграфічных прагнозах паменшацца да 73%.

# Апынуліся ў чарзе беспрацоўных

У Гомельскім цэнтры занятасці насельніцтва з надзеяй атрымаць працу стаяць болей за 800 спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. З пачаткам восені шэрагі беспрацоўных папоўніліся яшчэ на 89 выпускнікоў мясцовых універсітэтаў. Бальшыня тых, хто звярнуўся ў Цэнтр занятасці, закончылі Дзяржаўны універсітэт імя Францішка Скарыны, Тэхнічны універсітэт імя Сухога і Гандлёва-эканамічны універсітэт. Філолагам цяжка знайсці працоўнае месца, бо ў школах праходзяць скарачэнні.

# «Гістарычны выбар беларусаў»

Зборнік лекцый, якія за апошні год прэзідэнт Лукашэка прачытаў студэнтам галоўных вузаў краіны, будзе выдадзены кнігай пад назвай «Исторический выбор белорусов». Амаль палову выдання займаюць адказы Аляксандра Лукашэнкі на пытанні студэнтаў і выкладчыкаў. «Беларусь паспяхова здала экзамен на выжыванне ў сучасным свеце. Гэтая кніга – сведчанне клопату аб развіцці адукацыі і навукі», – напісаў ва ўступным слове лаўрэат Нобелеўскай прэміі Жарэс Алфёраў.

# Russian money

***(Літаральны пераклад з англійскай – расійская мана)***

Некалькі спрытных махляроў дадумеліся надрукаваць падробкі расійскай 500-рублёвай купюры, змясціўшы на яе партрэт Уладзіміра Пуціна (на здымку). Потым у расійскай глыбінцы яны абменьвалі ў даверлівых працаўнікоў гэтыя карцінкі на сапраўдныя грошы, гаворачы, што адбылася грашовая рэформа, і вось так выглядаюць новыя купюры. Сітуацыя нечым падобная на нашу – мы таксама чакаем новай расійскай валюты. Чакае гэтага дня і Расія, каб правесці абмен.





У сувязі з такім чаканнем Уладзімір Пуцін даслаў пісьмовую прапанову ў найбліжэйшы час вырашыць пытанне з увядзеннем расійскага рубля ў якасці адзінага плацёжнага сродку ў Беларусі. Праз колькі дзён прэзідэнт Лукашэнка даслаў у Маскву пісьмовы адказ, у якім выкладае свае бачанне праблемы.

Відавочна, што пераход на расійскі рубель – гэта дабраахвотны пераход ў стан залежнасці, у пэўным сэнсе гэта – набыццё ці, дакладней кажучы, вяртанне Беларуссю пэўнай долі дарэвалюцыйнага каланіяльнага статуса, калі яна, не маючы сваіх грошай, была аграрна-тэрытарыяльным прыдаткам Расіі. Маскоўскія палітыкі лічаць, што прыняццё расійскага рубля, выгадна для Беларусі, будзе для яе падарункам.

Чамусьці Масква не імкнецца падпісаць падобную «выгадную» дамову з ЗША ці з Еўрапейскім Саюзам аб пераходзе на даляр ці на еўра з правам атрымання грошай па жорсткай квоце. Аднак, скарыстоўваючы палітычную сітуацыю, навязвае такое «шчасце» Беларусі. Нават разыгрываюцца меладраматычныя фінансавыя сцэны «саступак».

Прыкладам, старшыня Цэнтрабанка Расіі заявіў, што Масква ў якасці саступкі гатовая прапанаваць Беларусі не адно, а два месцы ў Савеце дырэктараў Цэнтрабанка. Паколькі ў складзе Савета сем чалавек, то нават і два беларускія галасы замест аднаго ніколі не застануцца пачутымі, такое «членства» не болей чым цацанкі. Таму прэзідэнт Лукашэнка, прамаўляючы перад рабочымі Оршы, зазначыў, што калі зараз Беларусь пойдзе на грашовае аб'яднанне, то можа апынуцца без грошай, без заробкаў і пенсіяў, і прыдзецца на каленях поўзаць, прасіць у Масквы грошай на заробкі.

Зразумела, што такая заява беларускага прэзідэнта калі не адхіляе, то глыбока замарожвае пытанне з увядзеннем у якасці адзінай валюты расійскага рубля. З палітычных і ўсіх іншых прычынаў Маскву гэта раздражняе, і таму расійскія, а ў нас прарасійскія выданні запужваюць беларусаў змрочнымі карцінамі бліжэйшай будучыні, звязанымі з коштам на расійскі газ. Пакуль што Расія прадае яго Беларусі ў два разы танней, чым Украіне, і ў тры разы танней, чым Літве, Латвіі, Эстоніі. Прарасійскія СМІ пужаюць, што да ацяпляльнага сезону Беларусь сваю льготную квоту вычарпае, і тады Лукашэнку прыйдзецца прымаць жорсткія расійскія ўмовы, хоча ён таго ці не. І наогул, маўляў, варта хутчэй пагаджацца, бо Масква доўга ўгаворваць не любіць, і калі даў слова, трэба яго трымаць, хоць ад гэтага будзе крыўда мільёнам людзей.

Дарэчы, у Оршы Лукашэнка сказаў, што патрэбна абараняць нацыянальнага вытворцу ад імпартных тавараў. І не выключана, што давядзецца будаваць мытні на беларуска-расійскай мяжы. Сапраўды, зараз беларускі рынак густа завалены расійскімі таварамі і прадуктамі, а наш вытворца амаль непрыкметны і церпіць страты.

Інакш кажучы, працэс аб'яднання двух краінаў зайшоў у глухі тупік. І справа тут не ў расійскіх грошах, яны тут не болей чым заслона галоўных інтарэсаў. Пуцін перад выбарамі хоча атрымаць выйгрышную беларускую карту – усё ж далучэнне Беларусі да Расіі падымае ягоны рэйтынг. Упартасць Лукашэнкі псуе Пуціну гульню, і ён папрасіў беларускі бок праясніць пазіцыю. Паказальны нават сам факт яго звяртання да прэзідэнта Беларусі з лістом, што ў "саюзнай"дзяржаве выглядае вельмі дзіўна.

І вось змест адказа даведзены да публікі. Ліст павядамляе расійскаму прэзідэнту, што Аляксандр Лукашэнка "станоўча ацаніў падрыхтаваны праект пагаднення па ўвядзенню расійскага рубля ў якасці адзінай валюты". Аднак, каб яно пачало дзейнічаць, Расіі трэба трэба шмат што зрабіць, у прыватнасці вырашыць маштабныя пытанні: забяспечыць "бесперашкоднае перасоўванне праз беларуска-расійскую мяжу людзей, тавараў, капіталаў, паслуг; роўныя цэны на газ, нафту, электраэнергію ў поўным аб'ёме патрэбаў Беларусі; выплату кампенсацый падатка на дадатковы кошт, які збіраецца па краіне паходжання, за ўвесь перыяд з 2000 года; кампенсацыю стратаў у сувязі з увядзеннем расійскага рубля на тэрыторыі Беларусі". Але і гэты камплект цяжкавыканальных эканамічных мераў недастаткова для вырашэння праблемы. Галоўнае – няма зрухаў у падрыхтоўцы праекта Канстытуцыйнага акта Саюзнай дзяржавы. "Адкладаць прыняцце асноўнага закона Саюза, выносячы наперад падпісанне пагаднення па адзінай валюце, значыць парушаць прынцыповую паслядоўнасць у будаўніцтве Саюзнай дзяржавы" – заключае беларускі прэзідэнт.

Падпісаць Канстытуцыйны акт, падрыхтаваны яшчэ ў часы Ельцына, калі ў модзе былі тэзы пра славянскае брацтва, а беларускага прэзідэнта чакалі ў Маскве і артыкуламі дакумента надзялілі мноствам паўнамоцтваў, расійскі прэзідэнт Пуцін не імкнецца. І такім чынам увядзенне адзінай валюты пераходзіць у сферу палітычных казуістык і тэарэтычных абмеркаванняў.

Павел БАРАНОЎСКІ

# 13 верасня – Дзень Мінска

13 верасня ў Мінску будзе адзначацца Дзень горада. Ён святкуецца ў другую суботу першага восеньскага месяца толькі другі год. Так сталася пасля таго, як свята перанеслі на гэтую дату з 3 ліпеня, калі ў 1944 годзе беларуская сталіца была вызваленая ад фашыстаў. А 3 ліпеня – звычны Дзень вызвалення Мінска – зрабілі ў Беларусі Днём незалежнасці.

Другая субота верасня як Дзень Мінска абраная без якіхсьці значных ці нязначных падставаў. Куды больш натуральна было б, напрыклад, святкаваць яго 3 сакавіка. Гэта дата першай гістарычнай згадкі пра Менск (1067 год, знакамітая бітва на Нямізе). Але пачатак вясны, з магчымай адлігай, з пазасталым ад зімы смеццем, не лепшы час для гарадскіх гулянняў. Другая субота верасня, відаць, была абраная на ўзор Масквы, дзе Дзень горада святкуюць у першую суботу. Леташні мінскі вопыт паказаў, што надвор`е можа не выказаць павагі да гараджанаў – дождж, холадна, трэба апранацца ў плашчы і курткі, мець парасон. Такой разняволенасці, якая панавала на ранейшых, ліпеньскіх, святкаваннях Дня Мінска, ужо не адчуеш.

Але як бы тое ні было, правільна ці няправільна вырашыла ўлада, а ў горада павінен быць свой Дзень. Хай жа хоць будзе другая субота верасня. Ёсць у восеньскім святкаванні і станоўчы бок, бо верасень дазваляе гандлёвым арганізацыям разгарнуць багатыя кірмашы дароў прыроды. Тысячы практычных менчукоў спалучаюць прыемнае з карысным – і канцэрты паслухаюць на вулічных эстрадах, і назапасяць пад час святочнай прагулянкі бульбы, цыбулі, садавіны, мясных ды рыбных вырабаў.

Сёлета на Дзень Мінска апрача народных гулянняў, усялякіх забавак для дзяцей, традыцыйнага знаёмства з майстэрствам мінскіх гастраномаў, адбудзецца некалькі значных і доўгачаканых прэзентацыяў культурнага зместу, якія застануцца ў сталічным абліччы надоўга.

У 16 гадзін у скверы паміж вуліцамі Валадарскага, Гарадскі вал і Няміга будзе адкрыты помнік славутаму паэту, ураджэнцу Навагрудка Адаму Міцкевічу. Дарэчы, і сквер будзе насіць цяпер ягонае імя. Помнік мусіў з'явіцца ў Мінску яшчэ пяць гадоў таму, калі святкавалася 200-годдзе з дня нараджэння паэта. І вось нарэшце дачакалі. Лепш позна, чымсьці ніколі. А на плошчы Свабоды ў гэты дзень урачыста адкрыюць адноўленую гарадскую ратушу – даўні сімвал гарадскога самакіравання, – узведзеную за рэкордны тэрмін. Яна аздоблена адмысловым гадзіннікам, з якога кожныя паўгадзіны гучыць непрацяглая мелодыя з песні пра Мінск на музыку Ігара Лучанка і верш Пімена Панчанкі. Гэтая гарадская навінка, пэўна, і зробіць плошчу Свабоду эпіцэнтрам сталічнага свята, прывабіць на адкрыццё тысячы цікаўных.

Кірыла ПАЗНЯК

# Дні Ведаў для выгнанцаў

**Першы ўрок у гэтым навучальным годзе вучні і настаўнікі зачыненага Нацыянальнага дзяржаўнага ліцэя імя Якуба Коласа прысвяцілі чалавечнасці. Чалавечнасць – гэта найперш павага правоў і разуменне пачуццяў іншага чалавека**


Урачыстая лінейка ліцэістаў перад будынкам адабранага ліцэя


Бацькі і настаўнікі ладкуюць імправізаваны клас пад адкрытым небам


Перад першым урокам

Першага верасня навучэнцы адзінага ў краіне беларускамоўнага ліцэя асэнсоўвалі, што менавіта чалавечнасці – павагі да іхніх правоў і разумення іхніх пачуццяў – бракуе чыноўнікам ад асветы, асэнсоўвалі, што яны з чужой жорсткай волі сталі выгнанцамі ў роднай краіне. І таму гэты дзень стаў не толькі неадменным фактам іх біяграфіі, але і назаўжды ўпісаны чорным радком у беларускую гісторыю.

Ранкам Дня Ведаў на вуліцы Кірава паўтары сотні вучняў ліцэя сабраліся на ўрачыстую лінейку. Гэтым годам на лінейку прыйшлі не толькі бацькі і настаўнікі. Падтрымаць ліцэістаў прыйшлі сотні людзей. «Мы бачым святой мэтай адукацыі дапамагаць людзям пазбаўляцца заганных якасцяў, такіх, як канфармізм, пакорлівасць, маладушша, і выхоўваць іх як сапраўдных грамадзянаў сваёй краіны,» – сказаў на лінейцы Уладзімір Колас, дырэктар Нацыянальнага ліцэя. Затым ліцэісты праспявалі свой гімн на дзвюх мовах – лацінскай і беларускай. Пасля празвінелі дзесяткі званочкаў – вучэбны год у ліцэі імя Якуба Коласа можна лічыць распачатым.

Першыя ўрокі – на адкрытым паветры, у алеі каля стадыёна «Дынама». Тут урокі будуць праходзіць, пакуль будзе спрыяць надвор'е. «Я думаю, што ў Беларусі знойдзецца месца для 100–150 нашых вучняў. Мы будзем вучыць іх хаця б на прыватных кватэрах. Так што пакуль у нас ёсць дах над нашымі галовамі, пакуль у нас ёсць нашыя прыватныя кватэры, пакуль ёсць грамадскія арганізацыі, я думаю, мы знойдзем магчымасць для навучання», – кажа дырэктар Уладзімір Колас.

Ужо зараз людзі прапануюць для правядзення заняткаў свае майстэрні, кватэры, свае загарадныя дамы. Але і настаўнікі, і вучні ўсё ж такі спадзяюцца, што з часам сітуацыя зменіцца, што сіламі грамадскасці чыноўнікі выканаюць свае прамыя абавязкі і ў сваёй працы будуць кіравацца інтарэсамі людзей.

Для ліквідацыі ліцэя, на думку настаўніцкага калектыву, не было ніякіх разумных падставаў. У фармулёўцы ў пастанове Савета Міністраў было сказана: «ліквідаваць у метах аптымізацыі сістэмы навучальных установаў». Што хаваецца за гэтымі словамі, і якая гэта такая «аптымізацыя», што вымагае закрыцця нацыянальнай навучальнай установы, тлумачыць ніхто не бярэцца. Тым часам у праверках, якія праводзіліся ў ліцэі, нават у самых тэндэнцыйных і недабразычлівых, заўсёды адзначаўся высокі ўзровень ведаў вучняў. На пытанне як будзе адбывацца вучоба настаўнікі кажуць, што ім самім цікава. «Мы будзем імкнуцца навучыць іх добра, даць ім добры ўзровень ведаў, які мы звычайна давалі ў нашым ліцэі, якім традыцыйна наш ліцэй славіўся», – кажуць настаўнікі. Усе спадзяюцца, што з часам знойдзецца памяшканне.

Большасць ліцэістаў, нягледзячы на закрыццё, не захацелі пайсці ў звычайную школу. З 159 навучэнцаў 138 засталіся ў ліцэі. Складаны лёс чакае выпускнікоў, бо калі ліцэй не адновіць свой афіцыйны статус, ім, каб атрымаць дакумент аб адукацыі, прыйдзецца здаваць іспыты экстэрнам.

Дарэчы, усе сёлетнія выпускнікі паступілі ў вну, прычым на самыя прэстыжныя факультэты. А сваю перамогу яны прысвяцілі роднаму ліцэю. «На ўступных экзаменах яны паказалі самы высокі клас ведаў. «З прыёмных камісій нават тэлефанавалі нам у ліцэй і казалі, што ўсе былі ў захапленні, як адказвалі ліцэісты,— кажа Ірына Сідарэнка. — Адказвалі па-беларуску, нават тады, калі не дазвалялі. Нават калі казалі, што «нармальныя людзі» перакладаюць на расейскую мову. Дзеці гэтага не спужаліся, яны ўсе здалі іспыты».

Ірына Сідарэнка, завуч былога ліцэя, кажа, што ўсе абяцанні, якія вучням і настаўніцкаму калектыву давалі ў Савеце Міністраў, у Міністэрстве адукацыі, а таксама ўсё, што абяцала гарадская ўлада не спраўдзіліся. «Вельмі абурае тое, што ў сродках масавай інфармацыі і дзяржаўным радыё інфармацыя пра ліцэй перадаецца няправільна. Не прапанавалі ні нам, ні дзецям ні працы, ні навучання. І мы вымушаныя змагацца за свой ліцэй далей», – кажа завуч.

*Пытанне Уладзіміру Коласу:*

**– Ці вы не турбуецеся пра лёс гэтых маладых людзей, якія пачынаюць тут вучыцца разам з вамі, калі будучыня ліцэя невядомая?**

– Значна больш я турбуюся за лёс іншых дзяцей у іншых школах, якіх зноў вучаць лухце, вучаць нейкім скажоным тэндэнцыйным падыходам да гісторыі, якіх выхоўваюць у духу абсалютнай пакорлівасці і гатоўнасці выконваць любыя, самыя бязглуздыя загады, якія пасля могуць вельмі негатыўна адбіцца на іх лёсах. А тут вучацца свабодныя грамадзяне свабоднай краіны. Гэта будучыня Беларусі.

Наступным днём заняткі 130 навучэнцаў адбываліся каля стадыёна «Дынама» ў імправізаваных класах. У другой палове дня вучні разам з класнымі настаўнікамі пайшлі на агляд мінскіх музеяў. Гэта - ліцэйская завядзёнка, і настаўнікі не хочуць ламаць традыцыі. Трэцяга верасня, зноў жа па традыцыі, быў аддадзены спорту - ліцэісты выязджалі ў Зялёнае. Наступным днём пацяплела, і заняткі ліцэістаў зноў адбываліся ў алеі блізу аднаго з іх будынка.

Безумоўна, такі рэжым навучання не можа цягнуцца доўга. Патрэбны класныя памяшканні, а знайсці іх у Мінску не надта проста. Самае галоўнае, што ва ўмовах раскіданасці класаў церпяць наладжаны за дзесяць гадоў існавання ліцэя традыцыйны парадак, сяброўства, сама ліцэйская атмасфера, у якой усё важна – і перапынкі, і настаўніцкая, і агульныя сходы, і дзяжурствы, і праца гурткоў. Чыноўніцтва, якое здзейсніла ліквідацыю, не надта сароміцца і не абцяжарана турботамі, бо ў Беларусі абавязковая толькі базавая адукацыя (9-гадовая), а далей хоць на печы сядзі. Для іх і добра, што зачынілі адзіны беларускамоўны ліцэй – ён быў як знак ганьбы на цалкам сусіфікаванай сістэме асветы ў краіне.

Асабовыя справы ліцэістаў разасланыя ў школы па месцы жыхарства. Такім чынам запушчаны ў дзеянне звычны чынавенству механізм прымусу. Аднак беларускія заканатворцы не прадбачылі такую сітуацыю і пакуль не паспелі выкінуць з законаў права на хатняе навучанне і здачу экзаменаў экстэрнам.

Для вучняў ліцэй пад адкрытым небам ёсць у пэўным сэнсе нейкая цікавая гульня – іншай падобнай школы болей у Еўропе няма, але дарослыя павінны разумець, што гэта вынік ганебнага цынізму чыноўнікаў, а ў дачыненні да дзяцей – яшчэ ў дадатак і бязлітасная жорсткасць. Інакш немагчыма назваць такую «педагогіку», калі класы расфарміроўваюць па розных школах, ірвуцца сяброўскія сувязі, дзецям навязваюць навучанне на іншай мове, у іншых настаўнікаў, у іншым калектыве. У пэўных адносінах гэта – ссылка, духоўнае пакаранне.

Такое грубае парушэнне канстытуцыйных правоў на навучанне стала магчымае з прычыны абыякавасці грамадства. Дырэктар ліцэя Уладзімір Колас у прамове на Дзень Ведаў слушна адзначыў: «Людзям, на жаль, уласцівыя не толькі высокія, але і заганныя рысы. Гэта – баязлівасць, грамадзянская апатыя і прыстасаванства, якія сёння многія дарослыя на адказных пасадах праяўляюць тады, калі ад іх патрабуецца цвёрдасць, прынцыповасць і самаахвярнасць».

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

## Меркаванне рускага турыста:

**«Ваше Министерство образования давно работает как провинциальное управление российского министерства образования. Имеет смысл его сократить, а освобожденные кабинеты отдать под лицей или иное белорусскоязычное учебное заведение. Хоть что-то у вас будет белорусское, не взятое у нас. И зарплату таким чиновникам не придется платить».**


Дырэктар Нацыянальнага ліцэя Уладзімір Колас прадстаўляе ліцэістам шаноўнага госця – Станіслава Шушкевіча


Выкладчык нямецкай мовы – пісьменнік, перакладчык Васіль Сёмуха

# Польская рэформа адукацыі

Выступаючы 11 лістапада 1997 года на паседжанні Сойму Рэспублікі Польшча Ежы Бузэк сказаў: «Адукацыя – гэта інвестыцыя народаў і свабодных людзей ва ўласную будучыню...» А 1 верасня 1999 года ў Польшчы пачалася рэформа адукацыі. Яна ахапіла дзве сферы: структурную і праграмную.

## Структурныя змены

У структурным ланцужку адукацыі з'явілася новае звяно – гімназія. Гэтай структуры адукацыя не мела ад 40-х гадоў. З першага па шосты клас базавая адукацыя і тры гады гімназіі – гэта адукацыя абавязковая.

Пасля заканчэння базавай школы дзеці не здаюць экзамены, а толькі пішуць кантрольныя працы. Пасля заканчэння гімназіі вучні зноў пішуць кантрольныя працы, па выніках якіх яны могуць далей працягваць вучобу ў ліцэях, тэхнікумах або прафесійных вучэльнях. Заданні для кантрольных прац паступаюць у школу з Цэнтральнай экзаменацыйнай камісіі. Каб мець магчымасць паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову, патрэбна здаць так называемую «матуру» – экзамены за сярэднюю школу. Гэты экзамен двухступеньчаты: унутраны і знешні. Па выніках знешняга экзамена маладыя людзі паступаюць у вну. Абодва экзамены здаюцца ў школе, толькі заданні для знешняга экзамена цэнтралізавана паступаюць з Варшавы з Цэнтральнай экзаменацыйнай камісіі.

## Праграмная рэформа

А цяпер што тычыцца праграмнай рэформы. У кожнай школе акрамя прадметных праграм ёсць спецыяльная праграмная аснова, прынятая Міністэрствам народнай адукацыі і спорту, якая абавязковая для ўсіх настаўнікаў на ўсіх уроках ва ўсёй краіне. Гэтая праграмная аснова абавязвае ўсіх настаўнікаў да выкарыстання ведаў і ўменняў на кожным узроўні. У ёй пазначаны адукацыйныя мэты, заданне школы, змест адукацыі, пачынаючы ад дашкольнай адукацыі да «матуры».



На падставе праграмнай асновы складаюцца праграмы навучання розных прадметаў. Толькі для навучання польскай мовы ў гімназіях Міністэрствам народнай адукацыі і спорту зацверджана не менш 14-ці праграм, для інтэграванага пачатковага навучання – больш за 20.

Кожны настаўнік мае права выбраць праграму і падручнікі, па якіх ён будзе працаваць. Каб зрабіць выбар, ёсць тры шляхі: 1) карыстацца праграмай, зацверджанай міністрам адукацыі; 2) мадыфікаваць праграму, змяніць да 20%; 3) працаваць па аўтарскай праграме, зацверджанай дырэктарам школы.

Пры гэтым ва ўсіх выпадках павінна быць захавана праграмная аснова.

## Аўтарскія праграмы

У такой сістэме адукацыі асабліва зацікаўлены настаўнікі творчыя, яны атрымліваюць шанец працаваць так, як лічаць патрэбным. Ёсць такія настаўнікі, якіх проста немагчыма абмежаваць нейкімі рамкамі. Адзіная ўмова – выкананне праграмнай асновы.

Да 1990-х гадоў была адна праграма, і па ёй працавалі ўсе настаўнікі. Цяпер жа кожны настаўнік можа выбраць для сваёй працы праграму, якая б адпавядала яго жаданням і магчымасцям. Такі выбар цяжка рабіць. Бо настаўнік, як і большасць людзей не такі ўжо смелы. Але з кожным годам смелых настаўнікаў становіцца больш, адпаведна больш становіцца аўтарскіх праграм.

Абавязкам аўтараў праграмы (як правіла, аўтарскі калектыў да 6 чалавек) з'яўляецца пошук аўтараў падручнікаў, дапаможнікаў, сшыткаў з практыкаваннямі, калі самі напісаць не могуць. Таксама трэба знайсці выдавецтва, якое зацікавіцца выданнем дадзенага падручніка, аплаціць працу аўтараў. Бо фінансавыя выдаткі нясе выдавецтва. Праграма без матэрыяльнага забеспячэння нічога не значыць і не можа быць выкарыстаная для навучання.

## Праграму трэба выбраць

Настаўнікі ў канкрэтнай школе выбіраюць праграму, на педагагічнай нарадзе прадстаўляюць яе школьнай адміністрацыі. Гэта праграма павінна адпавядаць агульным мэтам працы школы. Таксама прадстаўляюцца змены, якія будуць здзейснены ў праграме, аргументуецца іх неабходнасць. Дырэктар школы зацвярджае праграму і ўключае ў агульнашкольную праграму. Праграма разлічана на 3 гады. Мяняць яе штогод не мае сэнсу. Бацькам вучняў прапаноўваюць спіс падручнікаў, якія неабходна купіць у кніжнай краме да пачатку навучальнага года.

Наяўнасць агульнай праграмы прымушае кантактаваць паміж сабой і працаваць сумесна настаўнікаў розных прадметаў, чаго ніколі не было раней. Пачалі развівацца актыўныя метады навучання на розных уроках.

## Як павысіць кваліфікацыю

Настаўнік, які прыйшоў у школу пасля заканчэння універсітэта, працуе як стажор дзевяць месяцаў. За яго працай назірае дырэктар, і праз дзевяць месяцаў, калі не заўважае адпаведнай працы і развіцця, не прымае яго на працу. Ён ідзе ў новую школу – і ўсё пачынае спачатку. Такая сістэма прымушае павышаць сваю кваліфікацыю, настаўнік павінен старацца. Наступная кваліфікацыйная ступенька – настаўнік кантрактны.

Праз тры гады працы настаўнік можа прэтэндаваць на кваліфікацыю – настаўнік іменны. Настаўнік піша для сябе праграму развіцця, дырэктар зацвярджае яе. Праз тры гады патрэбна напісаць справаздачу аб рэалізацыі праграмы развіцця, якую зацвердзіць дырэктар. Пасля настаўнік здае экзамен перад спецыяльна створанай камісіяй, у якую ўваходзяць прэзідэнт або бурмістр горада, дырэктар і тры эксперты. Перад камісіяй настаўнік расказвае, чаго ён дасягнуў за тры гады. Кожны член камісіі мае 10 пунктаў, якімі ён ацэньвае прэтэндэнта на павышэнне кваліфікацыі. Максімум, што можна атрымаць, – 50 пунктаў. Каб здаць экзамен, дастаткова атрымаць 37 пунктаў.

Наступная ступень кваліфікацыі – настаўнік дыпламаваны. Экзамен здаваць не патрэбна, абарона праходзіць завочна, камісія не ведае і не бачыць прэтэндэнта. Яна мае толькі пісьмовыя дакументы, на падставе якіх і прысуджае кваліфікацыю. Абарона праходзіць на ўзроўні ваяводства. У склад камісіі ўваходзяць куратар і тры эксперты.

Быць дырэктарам школы можа быць настаўнік з вышэйшай адукацыяй, які мае пяць год стажу, скончыў адпаведныя курсы пры міністэрстве. Кожныя 5 год адбываецца конкурс на дырэктара школы, і каб яго выйграць, трэба добра працаваць.

## Стымулы і вынікі

За кожны ўзровень кваліфікацыі настаўнік атрымлівае дабаўку да заработнай платы. Гэта таксама ў нейкай ступені актывізуе настаўнікаў да павышэння кваліфікацыі.

Пасля 30 год працы настаўнік мае права ісці на пенсію. З 2006 года будуць уведзены змены: настаўнікі, якія не маюць спецыяльнай адукацыі, вымушаны будуць пакінуць школу. Зараз настаўнікі стараюцца атрымаць дзве адукацыі, бо часам у адной школе не хапае ўрокаў на стаўку. І некаторыя настаўнікі працуюць у некалькіх школах.

Апошнім часам зменшылася колькасць папер, якія трэба мець на выпадак розных праверак, але ад гэтага не зменшылася праца ў школах. Больш увагі звяртаецца на працу з бацькамі, на працу ў мікраараёне.

Вялікая ўвага надаецца працы з камп'ютэрам. Зараз у кожнай базавай школе, у кожнай гімназіі ёсць камп'ютэрныя класы. Ля аднаго камп'ютэра падчас заняткаў працуе не больш двух дзяцей. Сярэдняя колькасць вучняў на адзін камп'ютэр залежыць ад узроўню школы: у пачатковых школах (1–6 класы) – 44, у гімназіях (7–9 класы) – 28, у ліцэях (10–12 класы) – 20 вучняў. Кожная школа мае доступ у Інтэрнэт, мае там сваю старонку.

Хачу падзякаваць спадарыні Марыі Гудро, адной з аўтараў праграмы навучання польскай мовы «Слова як ключ», за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага матэрыяла.

**Леанарда МУХІНА**




**Забытыя жаўнеры Польскага войска ў часы Другой сусветнай вайны. Матэрыялы і ўспаміны. Складальнікі і аўтары гісторыкі Юрый Грыбоўскі, Кузьма Козак.**
**Кніга выдадзена пад эгідай Польскага інстытута у Мінску. Упершыню прадстаўлены спісы палеглых у часе вайны жаўнераў беларускага паходжання Польскага войска на баку заходніх саюзнікаў.**




**А. В Шаркоў. Архіпелаг ГУПВи Военнопленные и интернированные на территории Беларуси 1944-1951.**
**Даследаванне, рэкамендаванае да выдання Саветам Акадэміі Міністэрства ўнутраных справаў РБ. Кніга ўтрымоўвае унікальны даведачны і ілюстрацыйны матэрыял пра ўтрыманне ваеннапалонных у лагерах.**

# Мысленне – прывілей свабодных

***Інтэрв`ю з філосафам Алесем Анціпенкам***

Калі па-беларуску выдаецца інтэлектуальная літаратура, дзе вядомыя аўтары прэзентуюць сваё разуменне і асэнсаванне рэчаіснасці, гэта, безумоўна, культурніцкая падзея.

Складальнікі нававыдадзенай «Анталёгіі беларускага мысленьня» кажуць, што іх праца – гэта адказ на выклік, які прадставіла постсавецкая рэчаіснасць усяму беларускаму грамадству. Пра новую кнігу і пра сучаснасць нашая гутарка з адным з аўтараў і складальнікам Алесем Анціпенкам.

**– Калі ўзнікла ідэя выдання «Анталогіі...»? Ёсць уражанне, што яна рыхтавалася раней, але пабачыла свет толькі зараз**

– Ідэя гэтай кнігі ўжо мае сваю гісторыю. Нават адбыўся такі кур'ёзны выпадак. Я ўвесь час быў перакананы, што ідэя выдання належыць мне, але неяк мы з Валянцінам Акудовічам пачалі размаўляць пра тое, як нарадзіўся гэты праект, і ён выказаў такое ж шчырае перакананне, што ідэя належыць менавіта яму. У рэшце рэшт, мы без якіх-кольвек вялікіх праблемаў падзялілі аўтарства ідэі на дваіх. А год яе нараджэння 1995 ці 1996.

**– Матэрыялы сабраныя і напісаныя ў розныя часы, ад пачатку 90-х да самых сучасных. Ці ёсць нейкая дынаміка ў падыходах аўтараў, альбо вы не імкнуліся гэта паказаць?**

– Мы шукалі структуру, ідэю ці канструкцыю, на якой можна было б выбудаваць кнігу, і паспрабавалі таксама асэнсаваць, якія ёсць падставы супольнага існавання гэтых тэкстаў. І гэта мы як складальнікі сфармулявалі ў нашых прадмовах. У прыватнасці, Валянцін Акудовіч і я пішам пра тое, што сабраныя тэксты перадусім маюць сваім аб'ектам Беларусь, альбо іх аб'ядноўвае Беларусь як краіна, суб'ект і як аб'ект мыслення. Аб'ядноўвае іх таксама і праблематыка мыслення, праблематыка прысутнасці-адсутнасці. Таму, калі паглядзець на змест, то вы ўбачыце, што структура кнігі збудавана менавіта паводле гэтага падыходу. У прыватнасці, першая частка «Эйдас» – гэта своеасаблівыя ўводзіны ў беларускую сітуацыю. Гэтая частка заманіфэстоўвае пачатак новага беларускага інтэлектуалізму (новага, параўнальна з перыядам пачатку 20 ст.).

**– Адказамі на пытанні, якія ёсць у кнізе, займаюцца таксама і дзяржаўныя ідэолагі, высілкі якіх зараз як ніколі скіраваныя на пошук нацыянальнай ідэі. На вашую думку выкладзеныя матэрыялы – гэта альтэрнатыўная думка, ці ўсё ж такі адлюстраванне нейкай аб'ектыўнай рэчаіснасці?**



– Я хачу падкрэсліць, што перадусім, як мы для сябе гэта вызначылі, гаворка ідзе пра разуменне Беларусі як суб'екта еўрапейскай гісторыі, еўрапейскай культурніцкай цывілізацыі, як аб'екта думання па-за яе эмпірычным выяўленнем. Беларусь, эмпірычная і сённяшняя, зараз дужа блытае людзей. Гэта вельмі ўдала, на мой погляд, у сваім тэксце паказаў Уладзімір Мацкевіч. Ён пачынае з таго, што Беларусь – гэта зусім не відавочная рэчаіснасць, існаванне якой яшчэ трэба давесці. Для адных, якія стаяць на пэўных ідэалагічных пазіцыях, Беларусь існуе, таму, што ёсць беларуская мова, ёсць бел-чырвона-белы сцяг, ёсць свая гісторыя і г.д. Для іншых – гэта зусім не відавочна, бо калі ты выйдзеш на вуліцу, то людзі, практычная большасць, размаўляе па-руску, няма ўжо бел-чырвона-белых сцягоў над адміністрацыйнымі будынкамі, чамусьці Беларусь імкнецца інтэгравацца з Расіяй, і ў рэшце рэшт, у назве нашай краіны ёсць корань «русь».

І якраз пра гэта мы і спрабавалі думаць і пісаць. Пра тое, што Беларусь ёсць, што яна існуе па-за гэтымі эмпірычнымі вобразамі, якія могуць нас падманваць.

**– Са зместу вынікае, што выданне будзе папулярным у вузкіх колах. Шырокаму чытачу такія разважанні, напэўна, не будуць цалкам зразумелымі. Усё ж такі на каго вы разлічвалі, хто ваш чытач?**

– Безумоўна, гэта кніжка не для шырокіх колаў і не для чытання ўсімі. Інакш кажучы, каб яе прачытаць, спатрэбіцца прыкласці пэўныя інтэлектуальныя высілкі. У кнізе ёсць шэраг тэкстаў, якія, не маючы пэўных ведаў у філасофіі і культуры, будзе чытаць вельмі складана. Таму «Анталогія», як раней пісалі ў анатацыях да савецкіх кніг, «разлічана на студэнтаў, аспірантаў, навукоўцаў і выкладчыкаў вну». Калі б мы пісалі анатацыю ў такой савецкай форме, то дадалі б яшчэ — «і інтэлектуалаў».

**– Калі казаць пра еўрапейскі кантэкст і еўрапейскую думку, то шмат якія пытанні, якія закранаюць вашыя аўтары, для Еўропы сёння ўжо не актуальныя, бо адказ на іх быў знойдзены яшчэ ў пазамінулым стагоддзі. Для нас жа па-ранейшаму востра стаяць пытанні самаідэнтыфікацыі, праблемы тоеснасці і г. д. Чаму, на ваш погляд, так адбываецца?**

– Ёсць нацыянальная міфалогія і нацыянальная ідэя, але для сучаснай Еўропы ўсе гэтыя рэчы сапраўды не актуальныя і не істотныя. Гэта было актуальна ў 18–19 стагоддзях. Мы, у сваю чаргу, выбіраючы тэксты для «Анталогіі...», і не спрабавалі даць якіх-небудзь адказаў датычна таго, што такое беларуская ідэя, і гэтак далей. Таму спецыяльна і не рэпрэзентавалі такіх тэкстаў, хаця знайсці іх можна шмат. У свой час выходзілі цэлыя кніжкі на гэту тэму. Тое не было нашай мэтай, бо мы не збіраліся ідэалагізаваць беларускую сітуацыю. Наша задача іншая.

Справа ў тым, што калі б стаяла задача адказаць на пытанне «хто мы?» ці «адкуль беларусы?», то гэта была б зусім іншая кніжка. Калі казаць не вельмі сур'ёзна, то, каб зразумець, для чаго гэта кніжка паўстала, трэба задаць два пытанні: «ці ёсць жыццё на Марсе?», і «ці могуць беларусы мысліць?» Наконт жыцця на Марсе – мы не надта турбаваліся, а вось ці могуць беларусы мысліць – гэта перафармулёўка аднаго вельмі вядомага ў каланіяльных студыях пытання «Ці можа падпарадкаваны прамаўляць?» (падпарадкаваны тут – каланізаваны). Пра гэта піша Валянцін Акудовіч у сваёй прадмове, і ён кажа, што беларусам было забаронена мысліць амаль дзвесце гадоў. Таму што Беларусь тыповая, у новай гісторыі, каланіяльная, і тыповая посткаланіяльная, у сучаснай гісторыі, краіна. Адсюль шэраг нашых актуальных праблем. Напрыклад, мы не ведаем, хто мы, і не можам самі сябе ідэнтыфікаваць. Для вялікай колькасці беларускіх людзей чужыя, як пастаці і як героі беларускай гісторыі, Сапега ці Міндоўг. Гэта таксама і праблемы мовы. Усё гэта – вынік каланізацыі, якая насамрэч не проста тэрытарыяльны захоп.

Каланізацыя – гэта своеасаблівая пратыка, якая мае на мэце ментальнае, інтэлектуальнае і культурніцкае падпарадкаванне праз прышчэпку шэрагу комплексаў у «тузэмнага» насельніцтва. Калі гэтая практыка дасягае выніку, тады аказваецца, што ёсць культурная мова – руская і ёсць некультурная – беларуская. Каланізацыя заўсёды паспяхова разгортваецца тады, калі задзейнічаны рэпрэсіўныя механізмы, пры гэтым – не абавязкова механізмы фізічнага вынішчэння. Можна рэпрэсаваць чалавека культурніцкі, рэпрэсаваць ягоную ідэнтычнасць, ягоную мову, самасвядомасць, і зусім не абавязкова садзіць для гэтага ў ГУЛАГ. Можна проста забараніць беларускі ліцэй. Гэта таксама прыклад рэпрэсавання нацыянальнай ідэнтычнасці, нацыянальнай адукацыі, асветы, культуры.

Адукацыя – гэта механізм перадачы духоўных каштоўнасцяў, спосабаў мыслення, тыпаў рацыянальнасці і ўвогуле проста гістарычных ведаў і досведу продкаў. Таму ў нас, калі беларуская традыцыя шматкроць перарывалася і перапынялася ў выніку каланізацыі, шэраг нашых суграмадзянаў і не адчуваюць сваім ні Міндоўга, ні Язэпа Драздовіча ці нават Купалу.

У культурніцкіх герояў і інтэлектуалаў напэўна ёсць, не хацелася б казаць, місія ці абавязак... Проста гэта іхняя праца, – звязваць тое, што разарванае ў традыцыі. Увесь час рэканструяваць традыцыю. Гэта не справа простых людзей думаць пра традыцыю і займацца яе рэканструкцыяй, гэта праца інтэлектуалаў, навукоўцаў, гісторыкаў. Паколькі ў беларускай сітуацыі ёсць шмат праваламаў, то безумоўна, калі з'яўляецца нацыянальная эліта, адна з яе задачаў – гэта рэканструяваць традыцыю. Часам яе, праўда, трэба дэканструяваць, каб зразумець, якія аўтэнтычныя элементы гэтай традыцыі аказаліся рэпрэсаванымі.

**– Чаму для назвы вы выбралі менавіта слова «мысленне». Больш зразумела гучыць, напрыклад «беларуская думка»...**

– У назве зусім не выпадкова ёсць гэтае слова. Таму, што мысленне – гэта той інструмент, які дазваляе любому чалавеку, калі ён навучыўся ім карыстацца, бачыць рэчаіснасць зусім інакш, чым усе астатнія – не праз міфы, масавыя стэрэатыпы і шаблоны, якім вучаць у школе, асабліва вучылі ў савецкай. Гэта ўсё прывяло да таго, што людзі замест таго, каб думаць, карыстаюцца наборам нейкіх лякалаў, загатовак.

Сітуацыя мыслення між тым цалкам адрозная, бо гатовых адказаў (лякалаў у мысленні) насамрэч ніколі няма; адказы заўсёды трэба шукаць. Калі ж думка, прадукт мыслення, робіцца агульнапрызнанай, мне яна пачынае нагадваць тое самае лякала. Любая думка, нават самая высокая, гэта, калі заўгодна, памерлае мысленне, гэта прадукт. Як творца кожны раз памірае ў сваім творы (каб, праўда, нарадзіцца ў новым), так і з мысленнем - яно памірае ў думках. Можна сказаць і так: думкі – гэта прыгожыя помнікі мысленню.

Мы ж не хацелі рэпрэзентаваць беларускім чытачам могільнік, на якім ляжыць шмат прыгожых ці непрыгожых думак.

**– Для вас асабіста чым ёсць выданне «Анталогіі» – новы этап, ці завяршэнне нейкай вялікай працы.**

– Ведаеце, зараз такі час у нашай краіне, калі зноў, як за савецкім часам, з'явілася магчымасць для калекцыянавання. У савецкія часы, як мы памятаем, квітнела філатэлія, усе збіралі манеты, налепкі... Гэтым займаліся амаль усе. І зараз такая сітуацыя, калі палітычнае дзеянне практычна згасла, калі беларускае грамадства застыла ў нейкім новым чаканні, а значная колькасць людзей ужо ўвогуле нічога не чакае, у нас зноў з'явіўся час. Мы яго не змарнавалі для таго, каб папаўняць нашыя калекцыі этыкеткамі, а вырашылі скарыстаць на тое, каб сабраць інтэлектуальныя творы і выдаць іх пад адной вокладкай.

Як прадукт, «Анталогія», канешне, своеасаблівае падсумаванне. Таму, што мы – і аўтары, і ўкладальнікі – так ці інакш удзельнічалі ў тым працэсе, які цягнуўся практычна 10 год і які мы назвалі паўстаннем новага беларускага дыскурсу. З другога боку, усё ж такі мы маем дзве надзеі на будучае. Адна з іх – гэта тое, што ў Беларусі будзе з'яўляцца ўсё больш і больш маладых і вельмі адукаваных людзей, якія ўжо чулі і дапускаюць, што ў гэтай краіне людзі спрабавалі мысліць, і для іх наша кніжка будзе элементарным падручнікам, пры дапамозе якога яны змогуць пазнаёміцца са сваімі папярэднікамі, задаць самім сабе шэраг пытанняў, на якія трэба будзе шукаць адказы пры дапамозе мыслення.

Другая надзея... Каб патлумачыць яе сэнс мне прыдзецца зацытаваць А.Разанава, які з'яўляецца аўтарам філасофскай паэмы «Слова пра спадчыну», дзе ёсць такія радкі:

*Усё ж яшчэ застаецца*
*надзея, што нашы імёны*
*не будуць выкрэслены з кнігі*
*спадкаемцаў свету*
*і што сіротам вернецца*
*тое,*
*што ім належыць*
*спрадвеку. – спадчына.*

Мы гэтую надзею паспрабавалі для сябе зматэрыялізаваць, зрабіць падставу, каб яна была больш моцная.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**



# «Лётчык» пайшоў на пасадку

***Няма сфераў жыцця, якія пакінулі б па-за ўвагай махляры***

Дзве сяброўкі, назавем іх Таня і Даша, наймалі пакой у кватэры. Аднойчы гаспадыня сказала дзяўчатам, што праз месяц вяртаецца з арміі яе пляменнік і трэба для яго вызваліць пакой. Што ж, дзяўчаты далі ў газету аб'яву. На яе адразу ж адгукнуўся Андрэй М., жыхар Мінска. Сказаў, што ў яго трохпакаёвая кватэра на вуліцы Янкі Маўра і здае ён у ёй два пакоі, а ў трэцім будуць зачынены ягоныя рэчы. Свае два пакоі ён ацаніў на 70 даляраў у месяц. Дзяўчаты ўсцешыліся і паехалі на спатканне з ім.

Каля гандлёвага цэнтру «Пушкінскі пасаж» Андрэй расказаў дзяўчатам, што сам ён – лётчык першага класа, а ягоная жонка – сцюардэса. Бліжэйшым часам яны з'язджаюць па кантракце працаваць у Італію. На гэтай сустрэчы ён паказаў дзяўчатам тэхпашпарт на кватэру і фатаграфію жонкі з дачкою. Заплаціць прасіў наперад за паўгода, але ў дзяўчат не было такіх грошай, і яна паабяцалі на наступную сустрэчу прынесці грошы за тры месяцы. Гэтым разам яны сустрэліся на станцыі метро «Пушкінская». Дзяўчаты аддалі Андрэю 140 даляраў і запатрабавалі паказаць кватэру. Андрэй не разгубіўся і прывёў іх да сябе дадому. Па кватэры ён правёў дзяўчат такім галопам, што тыя не змаглі ацаніць яе стану.

Потым было яшчэ некалькі сустрэч. Падчас аднае з іх ён перадаў дзяўчатам ключ ад кватэры і ўзяў у іх яшчэ 35 даляраў. Рэдкі выпадак: дзяўчаты прапанавалі аформіць здзелку дакументальна – праз ЖЭС і падатковую інспекцыю. Але Андрэй казаў, што не трэба яму замарочак з падаткоўцамі. Аднойчы ён патэлефанаваў і сказаў: «Заўтра мы ляцім, і вы можаце засяляцца, толькі аддайце астатнія 35 даляраў».

Цягам сустрэч дзяўчаты, аднак, западозрылі нешта не тое і пачалі ўдакладняць, а якой гадзіне ён ляціць. Андрэй адказаў, што выходзіць з дому а другой гадзіне ночы. Дзяўчаты сказалі, што таксама прыйдуць у гэты час: «Як толькі вы выходзіце з пад'езду, мы заходзім». Але гэтая прапанова відавочна не спадабалася Андрэю. Ён «успомніў»: да яго з Масквы прыехаў брат, таму, маўляў, не трэба яго будзіць, а засяляйцеся вы з раніцы: ключ ад кватэры ў вас даўно ёсць.

Тады Таня і Даша дамовіліся сустрэцца з Андрэем а трэцяй гадзіне дня, а самі прыехалі на вуліцу Янкі Маўра загадзя і правялі невялікае расследаванне самі. Яны зайшлі ў пад'езд Андрэя і пацікавіліся ў суседзяў: ці здаюць кватэру 36, хто там жыве? Ім і расказалі, што ўвогуле ў кватэры жыве жанчына і двое яе сыноў, але адзін пакуль «адпачывае» ў турме.

Перад сустрэчай з Андрэем дзяўчаты наведалі гарадскі аддзел міліцыі № 3 Фрунзенскага РАУС і паведамілі пра свае прыгоды супрацоўнікам крымінальнага вышуку. Пры перадачы грошай Андрэя затрымалі.

У ГАМ-3 ён прысягаў вярнуць дзяўчатам грошы, напісаў распіску. Рыхтуючы дакументы, каб узбудзіць крымінальную справу, супрацоўнікі аддзелу дазнання Фрунзенскага РАУС пацікавіліся асобай Андрэя. І высветлілася, што ў дачыненні да яго яшчэ раней узбуджана крымінальная справа за махлярства – у Гомелі. Там ён паабяцаў некаму прыгнаць з Германіі машыну і ўзяў на яе набыццё дзве тысячы даляраў. Праз нейкі час расказаў «будучаму аўтаўладальніку» кранальную гісторыю пра тое, як яго «абулі» ў Германіі. За плячыма Андрэя – чатыры шлюбы і трое дзяцей, на ўтрыманне якіх ён не плаціў ні капейкі, так што міліцыя вышуквала яго за ўхіленне ад платы аліментаў. Андрэй, трэба думаць, здагадваўся, што пасля засветкі ў міліцыі яму нядоўга хадзіць на волі. Таму ў лічаныя дні ён пазнаёміўся з жанчынай і прыбіўся да яе ў прымы. Паколькі ён не з'яўляўся на першае запатрабаванне ў РАУС на допыты, яго абвясцілі ў вышук.

Аднаго разу Андрэю было пільна трэба заехаць на кватэру да маці. І трэба ж такому стацца, што якраз у гэты час сышчыкі былі ў двары яго дома. Яны звярнулі ўвагу, што ў кватэры спачатку запалілася святло, потым пагасла, і толькі свяціўся экран тэлевізара. Ведаючы, што Андрэева маці гэтай парою на працы, сышчыкі вырашылі, што ў кватэры той, каго яны шукаюць. Яны ціхенька падняліся на трэці паверх і выключылі святло ў ягонай кватэры. Андрэй выйшаў з кватэры даведацца, у чым рэч, і тут яго затрымалі.

Як расказаў дазнаваць Фрунзенскага РАУС Мінска Сяргей Куршанцоў, нават падчас допытаў Андрэй М. скарыстоўваў розныя хітрыкі, каб «выціснуць слязу». Напрыклад, казаў, што «маці ў мяне сардэчніца, і вестка пра мой арышт яе проста заб'е».

Сяргей Пятровіч цвердзіць, што калі людзі маюць справу з махляром, у іх надзвычай рэдка ўзнікаюць сумненні. А вось Таня і Даша, хоць спярша паводзілі сябе не надта асцярожна – проста на вуліцы перадалі немаведама каму немалую суму грошай – пазней усё ж задумаліся: нешта тут не так – і паспяхова правялі расследаванне, хоць і запознене. Ад «пасадкі» Андрэя ім будзе толькі маральнае задавальненне: разлічваць на кампенсацыю матэрыяльнае шкоды яны могуць хіба што тэарэтычна.

У сапраўдным шоку была жанчына, якая прытуліла ў сябе Андрэя. Яна з непаразуменнем пыталася ў дазнавацеля: «Ну хіба ж можна так ашукваць?» Асабліва яе ўразіла, што гэты не самы паглядны мужчына быў чатыры разы (афіцыйна) жанаты.

Цяпер «лётчык» прызямліўся ў СІЗО. У дачыненні да яго ўзбуджана крымінальная справа за махлярства.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

# Новая мэта – ідэалогія

«Сістэма адукацыі гатовая да таго, каб распачаць якасную адукацыю на ўсіх узроўнях», – так заявіў на прэс-канферэнцыі, сустракаючы новы вучэбны год, новы міністр адукацыі Аляксандр Радзькоў.

Падрыхтавана навучальна-метадычная база. Упершыню за шмат гадоў выкананы ўсе замовы на падручнікаў. Над імі працавалі аўтарскія калектывы, у склад якіх уваходзілі і акадэмікі, і школьныя настаўнікі. Як заўважыў міністр, «усё падбелена, падфарбавана, высаджаны клумбы». І таму школы можна разглядаць як «узор прыгожага, правільнага жыцця».

Гаворачы пра змест адукацыі, міністр адзначыў: «Пытанні ідэалогіі павінны праходзіць праз усе прадметы». Карацей кажучы, складаецца ўражанне, што з гэтага навучальнага году ідэалогія стане найгалоўнейшым прадметам. Уведзены абавязковы спецкурс «Ідэалогія беларускай дзяржавы». Яго будуць выкладаць філосафы і палітолагі. А ў школах – факультатыўны курс, гэта значыць – не абавязковы, а па жаданні вучняў. Міністр мяркуе, што «ў школах ёсць граматныя людзі», якія распрацуюць гэтым факультатывам як мае быць. Увогуле, «дзіця павінна быць арганізавана», і таму дзеці ўступаюць у грамадскія арганізацыі – піянерскую і Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі. Нельга сказаць, што ўсе дзеці паўваходзілі ў гэтыя «добранадзейныя» арганізацыі, але іхнія аддзелы створаны ў кожнай школе.

У адпаведнасці з дзяржаўнымі сацыяльнымі стандартамі на адукацыю аднаго школьніка штогод выдзяляецца 693 400 рублёў, на пазашкольную адукацыю – 112 900 рублёў. Гэтыміж стандартамі вызначаны нарматыў камп'ютэрызацыі – 1 камп'ютэр на 30 вучняў, але пакуль што ён не выконваецца. І самае важнае: як запэўніў Аляксандр Радзькоў, з кастрычніка сярэдняя зарплата настаўніка будзе эквівалентная 145 долярам.

Аналізуючы ход рэформы сістэмы адукацыі, міністр пажаліўся, што дзесяцібальную сістэму ацэнкі ведаў увялі залішне рэзка. Таму цяпер уводу навацыяў у сістэме адукацыі будзе папярэднічаць даўжэйшая і больш якасная падрыхтоўчая праца. Зрэшты, Міністэрства адукацыі перагледзела крытэрыі выстаўлення адзнак па 10-бальнай сістэме – цяпер яны сталі больш зразумелыя не толькі настаўнікам, але і вучням і іхнім бацькам.

Даволі востра стаіць праблема малакамплектных школаў. Новы міністр адукацыі не схільны сячы з пляча і зачыняць іх на падставе эканамічнай немэтазгоднасці. На ягоную думку, вырашаць лёс гэтых школаў павінны мясцовыя ўлады.

Міністр паабяцаў, што ў гэтым навучальным годзе правілы прыёму ў вышэйшыя вучэльні будуць апублікаваны як мага раней. Мяркуецца, што цэнтралізаванае тэставанне па 1-2 абавязковых прадметах будзе праводзіцца бясплатна, а ягоныя вынікі будуць прымацца адначасна і як выпускны, і як уступны іспыт. Па-ранейшаму выпускнікі школ будуць здаваць 4 іспыты – два абавязковыя па рускай ці беларускай мовах і па матэматыцы, а астатнія два – на выбар вучня.

**Яніна ЛЮТКОВІЧ**

## Адукацыя за мяжой

# Германія плануе вучыць за грошы



На думку генеральнага сакратара Службы акадэмічных абменаў Германіі Крысціяна Бадэ, у доўгатэрміновай перспектыве ФРГ павінна адмовіцца ад бясплатнай вышэйшай адукацыі. Бадэ сцвярджае, што ў спаборніцтве з вну іншых краін за прыток студэнтаў Германія можа вытрываць канкурэнцыю, толькі пакрываючы выдаткі за кошт адпаведных узносаў на адукацыю. Суседзі з Германіяй краіны даўно перайшлі да гэтакай практыкі, пры якой цяжар платы на навучанне крыху змякчаецца стыпендыямі.

Эксперты прагназуюць у бліжэйшыя гады выбуховы рост цікавасці да атрымання адукацыі за мяжой. «Міжнародны рынак адукацыі ў бліжэйшыя 20 гадоў вырасце ў 4 разы», – гаворыць Бадэ. Асабліва шмат студэнтаў будзе прыязджаць з Азіі. Па падліках Бадэ, на долю Германіі, калі зыходзіць з колькасці замежных студэнтаў, якая прыходзіцца ФРГ сёння, дастанецца 800.000 студэнтаў-замежнікаў

Для таго, каб вытрымаць канкурэнцыю, нямецкія універсітэты павінны прыцягваць з-за мяжы найперш старшакурснікаў і аспірантаў. Менавіта кваліфікаваная навуковая моладзь забяспечвае высокую рэпутацыю вышэйшых навучальных установаў.

# Адзіны дзяржаўны экзамен за мяжой

Веды і здольнасці выпускнікоў сярэдніх навучальных установаў у ЗША, якія здаюць SAT, ці ў Ізраілі, якія «здаюць» «псіхатэст», ацэньваюцца істотна інакш, чым на нашым Адзіным дзяржаўным экзамене. Імкнучыся ўраўнаваць магчымасці абітурыентаў, стваральнікі экзамена адмовіліся ад заданняў, якія патрабуюць маштабных ведаў, і паспрабавалі стварыць сістэму, якая ацэньвае менавіта прыродныя здольнасці вучня.

Напрыклад, ізраільскі тэст, які разбіты на тры вялікія раздзелы – «колькаснае мысленне», «слоўнае мысленне» і «англійская мова», – тэстуе фактычныя веды толькі ў апошнім раздзеле. Адносна ж астатніх вучню тлумачаць, што яму неабходна ведаць толькі базавыя правілы геаметрыі, простыя арыфметычныя дзеянні, а галоўнае – мець лагічнае мысленне і спадзявацца на здаровы сэнс. Раздзел «колькаснае мысленне» складаецца з простых задачак, якія рашаюцца ў адно ці два дзеянні, і пытанняў, знаёмых нам па кнізе Айзека: выключыце лішнюю фігуру з пяці, высветліце, хто з суразмоўцаў гаворыць няпраўду, і г. д. Лічыцца, што любы чалавек, які неяк скончыў сярэднюю школу, у ходзе псіхатэсту выявіць свае сапраўдныя здольнасці і прадэманструе прыёмнай вузаўскай камісіі свае сапраўдныя інтэлектуальныя якасці.

Індустрыя па падрыхтоўцы да SAT у ЗША вялізная. Курс падрыхтоўкі (ад 2 тыдняў да 3 месяцаў) каштуе ад 600 да 29.000 даляраў, прыстойны прыватны настаўнік бярэ ад 200 да 550 даляраў за гадзіну ці 1.400 даляраў на дзень, калі яму прапаноўваюць суправаджаць сям'ю на адпачынак і займацца з падлеткам там. Існуе таксама вялізная індустрыя камп'ютэрных праграмаў, кніг, завочных онлайнавых школ па падрыхтоўцы да SAT. Кошт камп'ютэрна-кніжнага курса можа вагацца ад 200 да 1.200 даляраў.

Калі Адзіны экзамен прыжывецца ў нас, то ў бліжэйшыя гады мы будзем назіраць рост такой падрыхтоўчай індустрыі – з усімі яе плюсамі і мінусамі. Мы ўбачым барацьбу на гэтым рынку паміж буйнымі монстрамі, скандалы, злучаныя з карумпаванасцю Міністэрства адукацыі, рэкламныя паэмы аб карысці такой падрыхтоўкі абітурыентаў. Усім, хто так ці інакш можа спадзявацца на ўдзел у такой сферы бізнесу, трэба выходзіць на старт сёння – спецыялісты па падрыхтоўцы выпускнікоў школы да Адзінага экзамена ўжо ёсць. У нейкі дзень, калі такая праца легалізуецца, яны выйдуць з ценю, і акажацца, што іх вялікая грамада.

# Будзе адзіная навучальная прастора

Нядаўна на канферэнцыі прафсаюза працаўнікоў сферы адукацыі і навукі спецыялісты падвялі прамежкавыя вынікі працэсу аб'яднання еўрапейскіх вну, які быў афіцыйна распачаты ў 1999 годзе на канферэнцыі краінаў ЕС у Балонні. 4 тысячы вышэйшых навучальных установаў у дзяржавах Еўрапейскага Саюза, у якіх вучацца 12,5 мільёнаў студэнтаў, у 2010 годзе аб'яднаюцца ў новую прастору. На ёй не будзе штучных бар'ераў для паступлення ўва універсітэт, не будзе спрэчак аб узаемным прызнанні дыпломаў. Будзе таксама пашыраны абмен студэнтамі і выкладчыкамі паміж вну. Усе бягучыя пытанні гэтага праекта будуць абмяркоўваць напрыканцы верасня на сустрэчы ў Берліне міністры адукацыі і навукі з 37 еўрапейскіх краін.



**Жанна ПАЛЯКЕВІЧ**

Кірыла ПАЗНЯК

# Зпадпадушкаўкі

**Паэт і эсэіст Леанід Галубовіч дастае зацемкі напаказ з левай кішэні, а Рыгор Барадулін – з-за пазухі. Каб не ўдацца ў плагіят, застаюцца хіба што нагавіцы. Многім згадаецца Маякоўскі: «Я достаю из широких штанин». Праўда, ёсць рызыка, што напісанае мной будзе названа неяк пошла. Самыя далікатныя ўспомняць вершык «Пятрусь Броўка піша лоўка...» І ўсё-такі мае зацемкі з-пад падушкі, таму што большасць думак, якімі хачу падзяліцца, прыйшла мне да галавы ў ложку. Праўда, багата іх забылася, відаць, самыя-самыя геніяльныя, таму што лянотна было падымацца, запальваць святло, шукаць блакнот з асадкай ці ўключаць кампутар і занатоўваць. Здавалася, што калі прыдумалася нешта вартае, яно застанецца ў памяці назаўжды, а калі што не згадваецца – значыць, гэта шалупінне. А мажліва, усё якраз наадварот.**

***

Калі скончаецца дзяцінства? Падлеткам здаецца, што тады, калі яны пачынаюць курыць. Але вось што казаў пра гэтую шкодную звычку Жорж Сіменон: «Пачынаеш паліць, каб даказаць, што ты мужчына. Потым спрабуеш кідаць паліць, каб даказаць, што ты мужчына». Нехта скажа, што дзяцінства скончаецца тады, калі банальна пазбаўляешся цнатлівасці. Ці калі ты скончаеш школу, ці калі ў цябе нараджаецца ўласнае дзіця. А можа быць, дзяцінства скончаецца толькі тады, калі памірае маці?

***

Першы раз я ехаў у Крым не толькі пакупацца ды пазагараць, але і спраўдзіць параўнанне Юрыя Алешы, што мора – гэта звалка роварных стырнаў. Калі б Алеша жыў у наш час, то ён бы ящчэ мог напісаць, што мора – гэта звалка CD-дыскаў.

***

Перадача на радыё «Вітаем. Віншуем. Жадаем». Канцэрт па заяўках. Кожная песня прысвячаецца «чулым і працавітым» людзям. Перадача гэтая ў эфіры ўжо некалькі дзесяцігоддзяў. Атрымліваецца, што «чулых і працавітых» у нас хапае. Вось толькі жывем мы чамусьці пагана-пагана.

***

Якая цытата з твораў беларускай літаратуры самая афарыстычная, самая вядомая і папулярная ў народзе? «Мой родны кут, як ты мне мілы»? «Каб любіць Беларусь нашую мілую»? «Не разбіць, не спыніць, не стрымаць»? «Пахне чабор»? «Бо я мужык»? Ўсё ж такі па-за канкурэнцыяй – куляшоўскае «цвёрда трымайся юнак на дапросе». Распытайце сваіх знаёмцаў і пераканайцеся колькі заўгодна разоў! Неяк давялося глядзець інтэрв'ю з самым вядомым геем постсавецкай прасторы, магіляўчынінам Барысам Маісеевым, дык на пытанне, ці не забыўся нашай мовы беларускай, ён адказаў дэкламаваннем менавіта гэтага верша. Радку «цвёрда трымайся юнак на дапросе» можна нават паставіць дзе-небудзь помнік. Будзе арыгінальна. Як літары «Ў» у Полацку. Хаця, дарэчы, «у нескладовае» ёсць не толькі ў беларусаў. Так што няма чым выхваляцца і выштукоўвацца. Маецца гэтая літара і ў кірылічным варыянце ўзбецкага алфавіту, хаця, натуральна, было б уцешна, каб у нацыі было нешта адметнае, чаго няма нідзе ні ў кога ў свеце. І во – нават «у нескладовае» дзелім з аматарамі плову. І дранікі не толькі мы ядзім, і буслы не толькі над нашай зямлёй лятаюць, і не толькі на Беларусі Бог жыве...

***

Многім пісьменнікам – каму ў творчай дэпрэсіі, а каму ў натхненні напісаць шэдэўр – здаецца, што каб не было Дастаеўскага і Джойса, то яны б напісалі «Братоў Карамазавых» і «Уліса», ці яшчэ што выбітнае. І ў гэтым ёсць рацыя, бо і чытачы таксама пераканаяныя, што каб не было Дастаеўскага і Джойса, то хто-небудзь іншы абавязкова напісаў бы «Братоў Карамазавых» і «Уліса», ці яшчэ што выбітнае. А калі так, то ёсць спадзяванне, што ў літаратуры не пра ўсё яшчэ напісана.

***

Беларусы – настолькі песымістычная нацыя, што нават не намагаюцца выбіраць з двух зол найменшае.

***

Беларускі Мюнхгаузен, вялікі гуляка Пане Каханку з клану Радзівілаў, сказаў неяк, чакаючы ў госці непітушчага апошняга караля Рэчы Паспалітай Аўгуста Станіслава Панятоўскага, якога ён недалюбліваў: «Чаговарты чалавек, з якім нельга напіцца!?» Відаць, ёсць людзі, якія і першага прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку не любяць хаця б толькі за тое, што ён не п'е. Затое ён павінен падабацца цвярознікам і язвеннікам.

***

Адзін з самых адчайных адчаяў у заўзятага хлуса, які кажа рэдкую праўду, а яму не вераць.

***

Адзін мой знаёмец даводзіць мне, што беларускай мовай няможна гаварыць у піўнухах і ў іншых невысакародных месцах. Каб не паганіць мовы нашай беларускай, каб не ўмёрла. Але якраз наадварот, каб не ўмёрла, яна мусіць гучаць паўсюдна, а не толькі ў рэзервацыях. Нацыяў з адных толькі філолагаў не бывае.

***

Частае выкарыстанне ўмоўнага ладу – прыкмета рамантычнасці і комплекса непаўнавартаснасці. Гэта сіндром многіх беларускіх адраджэнцаў. От калі б Сталін не аддаў Вільню Літве, каб БНР пратрымалася ні два дні і дзве ночы, каб на першых прэзідэнцкіх выбарах кандыдатам ішоў Карпенка... Тая карова малошна, якую воўк з'еў.

***

Калі б чалавек жыў дзвесце гадоў, ці перастаў бы ён баяцца смерці?

***

Амаль кожны год гаворыцца праканец свету, бываюць гады – і пра некалькі. Прычым з канкрэтнымі датамі. Але яны ўсё не надыходзяць. Але галоўнае – само чаканне гіпаэтычнага апакаліпсісу. Людзям нават падабаецца гэтым трывожыцца. Відаць, таму, што знікнуць усе. І яшчэ таму, што ёсць надзея, што менавіта табе пашчасціць выжыць і стаць новымі Адамам ці Евай.

***

Я спрабаваў стаць заўсёдна беларускамоўным не менш разоў, як кідаць паліць. І вось аднойчы пасля вандроўкі ў Меку украінскасці – Львоў мне гэта ўдалося. Проста зайздрасць узяла. У сваім беларускамоўі я спярша са спачуваннем паглядаў на рускамоўных і трасянкамоўных не толькі як на ахвяраў білінгвізму, але і як на непаўнавартасных беларусаў. Які ж беларус без беларускай мовы? Асалоды ад таго, што я гучу не так, як усе, ў мяне не было, а з цягам часу маё беларускамоўе пачало станавіцца ўсё дыскамфортней. Не, за беларускую мову мяне ніхто не цкаваў і не касавурыўся. Ніякага моднага і фобійнага сярод пакутнікаў-адраджэнцаў лінгвацыду я не зазнаў. Наадварот, было людзі прабачаліся перада мной, што нямоглыя ў мове. Пакрысе з'явіўся моўны сіндром, што якраз гэта я ў сённяшняй Беларусі – недабеларус, які дысаніруе з наваколлем, гэта я – штучнае, якое вытыркаецца з натуральнага. А як магло стацца інакш, калі бывала, што за цэлы дзень беларускую мову пачуеш толькі ў метро з магнітафоннай стужкі?

***

Актуалізацыя Багушэвіча. Не надта свабодна ў гэтай свабодзе. Не надта свабодна і ў гэтай свабодзе. Не надта свабодна ва ўсякай свабодзе?

***

Тэлевізар. Выпуск навінаў. Няважна які – ранішні, дзённы, вечаровы. Ці не палова інфармацыі – негатыў: самалёт разбіўся, тэрыстычны выбух, надзвычайнае прыроднае здарэнне, забойствы, махлярствы. Мая бабуля ўвесь час паўтарае, што гэта перад канцом свету, але ён усё не надыходзіць. Так было, ёсць і будзе. Зямля смярдзіць да самых зор... Хто гэта сказаў? Ніцшэ, Сартр, мо Камю? Калі пад рукой інтэрнет, праверыць памяць, спраўдзіць сваю версію аўтарства ці наадварот – можна за некалькі секунд. Дзякуй усім тым, хто зрабіў гэтую чарнавую работу і напоўніў яго вядомымі цытатамі і цэлымі літаратурнымі творамі. Хаця, зрэшты, тут няма нічога цяжкага: адсканаваў тэкст – і гатова. Гэта старажытныя перапісчыкі кніг дзейснілі сапраўдныя подзвігі. Тым, хто не ведае і заінтрыгаваўся, дык хто ж сказаў, што Зямля смярдзіць да самых зор, паведамлю – гэта Жан-Поль Сартр.

***

У Галубовіча ёсць радкі: «Вунь матляецца іх сцяг, быццам п'яніца ў гасцях. Ненавіджу». Было я часта хадзіў на футбол і на мітынгі пад бел-чырвона-белым сцягам. Але нядаўна ў часе прыезду ў Мінск нейкай афіцыйнай расейскай дэлегацыі ішоў праз плошчу Перамогі і ўбачыў два сцягі - чырвона-зялёны і сінебела-чырвоны расейскі. Наш і іхні, падумалася міжволі. Іхні і наш. Менавіта – наш. Прывыкаеш, што ёсць сцяг нацыянальны, а ёсць палотнішча дзяржаўнае. Любіць Беларусь можна і пад адным, і пад другім. Ды і наогул куды горш, калі б у горадзе былі вывешаныя толькі расейскія трыкалоры.

***

Чамусьці ніхто яшчэ не заняўся такім бізнесам – гандляваць метафарамі, рыфмамі, сентэнцыямі, сюжэтамі. Гатовыя вершы і паэмы, апавяданні і раманы пісьменнікі прадаюць – за ганарар, а ў раздроб, дэталі да іх – не. Рыфмы і сюжэты, бывае, пры нагодзе дораць ці нават прадаюць за пляшку гарэлкі, аднак адмысловых крамаў, хай сабе і «сэкандхэнд», на жаль, няма. А добра было хаця б проста зайсці – падзівіцца, прыцаніцца, якую каштоўнасць у галаве і ў шуфлядах маеш.

***

Самы каларытны насельнік мінскага заапарку – грыф. Ён падоўгу сядзіць, утарапіўшыся кудысьці ў адну кропку, па ўсёй клетцы раскіданы курачыя рэбры. Калі трохі пастаяць каля яго, стаі грыфаў з «Восені патрыярха» Маркеса ўяўляюцца надзвычай маляўніча.

***

Тыя, хто прагне ўзняцца з дна наверх, рызыкуюцьператварыцца ў пену. У Борхеса ёсць добры апокрыф: «Мала быць апошнімі, каб стаць калі-небудзь першымі».

***

Звычайна кажуць, што, каб быць натуральным у мове, мала на ёй гаварыць – на ёй трэба думаць. Але і гэтага мала – на ёй трэба сніць і займацца сэксам.



# «Ізноў усё вернецца нам...»

## Ігар ЛОСІК



*

Зарасла пустазельлем дарога –
І яна свой адмерала век,
З прывітальнага першага рогу
Зьнепакоіў яе чалавек.

Зарасла, як пустая мясьціна,
Што нявартая вока падзей,
Заімшэла, збуяла расьлінай,
Не пакінуў загонку надзей.
Разышліся сьцяжыны ў прасторы –
Накірункі, шляхі і прасьцені...
Мо й чакае вяртаньня каторы,
У вяртаньні адні – летуценьні.

*

Паволіць вясновая раніца
Няспынны будзённасці крок,
Нібыта паненка-спакусьніца,
Якой грэх даруе й Пан Бог.
Прамень вызваляе чульлівае
З працягласьці монатаноў
І раніца зводзіць маўклівая
Каб незабыванае зноў.
Хай буду вясновасьці п`яніцам
І мне мо даруе Пан Бог.
Паволіць вясновая раніца
Няспынны будзённасьці крок.

### Прадвесьне

Акварэль зімы размякла,
Дойлідзтва і шаты.
Між гарбоў завейных бляклa
Багнаў акалады.
Скваснуў плямны далягляд,
Стан разьлезлых крыгаў
Вытаньчыла на прагляд
Мімаходзь адліга.

### Сьвіслач

Уцякаеш нетаропка зноўку
На ўскосіну забытую лагчын
У вясновую вясковую вандроўку,
Каб адчуць рахманасьць і спачын.
Прыгарнешся да калючага чароту,
Асалодай – выступ жаўрука,
Некалі й шчаслівая выгода,
А калі – бязмежная туга.

Мітусіцца чоўн на лёгкай хвалі
І варожыць лісьцем цішыня
На вясновыя спакусьлівыя шалы,
А сароке не хапае дня.

Травеньскі вечар штораз
У невядомае, вольнае
Зваблівае шчырасьцю нас,
Закалыхаўшы наўкольнае.

Вечар, як скрытны махляр,
Іншае меў, штосьці з драмы.
Потым граў вецер-дудар
Доўгія, нудныя гамы.

*

Аціхлае песьня кранала
Журбліва ў вячорак ціхмень.
Забытае часам красала,
Як палкі бунтоўны агмень.
Вугольлем падманлівы прысак,
Здалёку й нябачна хады.
Мелёдыя, як бісектрыса,
Выразна дзяліла гады.
Мана варажбіткі-рамонкі,
Паверыў ёй шчыра ізноў.
Ціхмень той ілжывы і звонкі
Ня лічыць шчымліва гадоў.
А песьня лілася бясконца,
Як вольны вясновы ручай.
І нехта спаткаў ля ваконца
Спякотныя вусны, адчай...
Гады адлятаюць, як ночы.
Надзеі. Вяртанне. Падман.
І трызненьні мары: «Аднойчы
Ізноў усё вернецца нам».

*

Асклелага ў восені многа:
Дарогі, вяртаньні, таноў...
Шматкі: «За туманам нічога...»
Ірвуцца трохкроп`ем ізноў.
За шыбай - мяжой першаўзору
Уедліва - шэры абрыс,
Фальцэт камунальнага хору,
Ссавечаны homo нарцыс.
Агледзіць крумкач гаспадарку,
Рахманых спугне галубоў.
Каб дбалі пра волю, як чарку...
Снег бруд прыбярэ на Пакроў.

### Песьня

Мітаў векавалых і стагодзьдзяў
Ад крыві асклела вастрыё.
Па абрысах тых самотнік карагодзіў,
Меўся адшукаць хоць што сваё.
Долам сарапісавага Нілу,
Дзе вартуюць сьфінксы небыцьцё
Й вусьцішную гмахавасьць магілаў,
Асалодна мроіў Адкрыцьцё.
Прыгажосьць найноўшых Нэферціці
Не спыняла пошукавы крок,
Фальшаваў у золкім калярыце
Іерогліфамі свой куток.
Шчодрасьцю садоў Семераміды
ўночы наталяўся, нібы Сін,
Бабілёнскім паляўнічым мітам,
Скаляваў той экзатычны чын.
Ліра хвалявала Калідаса,
Іншамоўя невядомы сьвет,
Старасьвецкасьць рухаў
«Падаграса»...
Меў шчэ накірунак на Тыбет.
Раздарожжа. Пошукі, Памрокі.
Ад чаканьня вечнага - гарун.
Выпіла чужына яго сокі.
Напаткаўся Край, дзе жыў Пярун
Зьнерваваны, мусіць гэткі нораў,
Талаку ачольваў навальніц.
Дзе самоцяць плёсы і азёры,
Чысьціня вясковая крыніц.
«Я калісьці бачыў гэта поле, рэкі.
У мужчын тутэйшых стыль такі
дый вус...»
Словы скаланулі сэрца чалавека:
«До ўжо бадзяцца, братка-беларус».

# «Краса Айчыны»

З нагоды гістарычнага юбілею – 750-годдзя каранацыі на караля наваградскага князя Міндоўга ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры ў Мінску дзейнічае выстава мастацкіх твораў «Краса Айчыны». Яна наладжана Беларускай акадэміяй мастацтваў. Як пішуць арганізатары выставы, прадстаўленыя на ёй творы бальшынёй «не маюць жорсткай тэматычнай прывязкі да падзеі, якой яны прысвечаны, але знітаваныя з ёй духоўнай повяззю. Выстава лучыць працы лепшых мастакоў нашай краіны – трох пакаленняў, якія сфармавалі сучасную беларускую школу і якім ёсць што сказаць сваімі новымі працамі гледачу, даць імпульс для роздуму і веры ў спраўджанасць абранага шляху».

Мы падаем некалькі здымкаў сюжэтных карцін, бо жывапіс са страчаным у газетнай рэпрадукцыі колерам і каларытам будзе проста незразумелы. Выстава працуе да 20 верасня, і той, хто не паспеў паглядзець работы мастакоў БАМ, яшчэ мае магчымасць пазнаёміцца з цікавай экспазіцыяй жывапісу, графікі, скульптуры.



Валяр`ян Янушкевіч. Міндоўг.2002 г.



Уладзімір Тоўсцік. Спатканне. 2003 г.



Леанід Шчамялёў. Хрышчэнне Міндоўга. 1998 г.



Фелікс Янушкевіч. Беларускі святар Уладзіслаў Чарняўскі. 2003 г.

# На выставу ў Шацілкі

## *Уражанні і ўспаміны з падарожжа Мінск – Светлагорск*

Калі адчуваеш, што ты на доўга прыстыў да свайго гнязда, а навокал шалёна буяе вясновая квецень, так хочацца вырвацца на волю, удыхнуць гэтую прастору, задарожную перспектыву далечыні, каб, зрабіўшы, як той бусел, адно-другое кола над сваім гняздом, – нікуды не дзенешся – вярнуцца зноўку ў сваё жытло.

А тут добрая нагода – паехаць у Светлагорск, колішнія Шацілкі. Тамака сёння адкрывае мастацкую выставу Мікола Купава. Лёгкі на пад'ём Георг Ліхтаровіч адгукнуўся на нашую просьбу. Тым болей, кіроўца ён прафесійны, як і фотамастак, а што выдатны паэта, дык пра тое крыху ніжэй. Аўто Георга напагатове і мы нясёмся па дарозе на Гомельшчыну. Надвор'е, дзякаваць Богу, спрыяльнае. Гамонім аб тым, другім, пра нашае набалелае і пра тое, якія мы і якімі быць павінны. А каб не было сумна, Георг, не адрываючыся ад руля, запіхвае магнітафонную стужку ў вантробы аўтамагнітолы, і нас зачароўваюць ці, як бы сказаў наш класік Генадзь Бураўкін, – "закалыхваюць" мелодыі бардаў Вайханскіх... У салоне гучаць песні на словы Ліхтаровіча, мастака і паэта, само прозвішча якога гаворыць пра тое, каб свяціць... Асвятляць пацёмкі нашых душаў:

*Вам бясконца магу*
*Гаварыць пра пагоркі і долы я,*
*Дзе вясёлкі дугу*
*Уздымаюць дубы небачолыя,*
*Дзе плывуць паплавы,*
*Ручнікамі туману спавітыя, -*
*Там пачуеце вы*
*Нашых песень радкі*
*сакавітыя.*



**Вядомы мастак і грамадскі дзеяч Мікола Купава прэзентуе выставу сваіх твораў землякам**

Каб выруліць на Светлагорск, прыйшлося ехаць такімі выкрунтасамі, што, здаецца, назад ужо ніколі не знайшоў бы шляху, хіба толькі па глыбокіх ямах-рыцвінах. Нарэшце выбіраемся з віраватай вузлаватай вуліцы. На павароце - Парычы, дзе нас сустракае з паднятай уверх рукою усім да звання знаёмы бронзавы Ілліч. Парычы – мясціна файная. Побач цячэ шырокая імклівая Бярэзіна, маляўнічая, эпічна-рамантычная. Мікола Купава ўспамінае, што тут знайшла свой вечны спачын ягоная аднакурсніца, мастачка Ларыса Палякова. Бязлітасны лёс не даў ёй магчымасці спраўдзіць да канца свой талент. Я памятаю яе пасмяротную выставу ў Палацы мастацтва, якую ладзілі сябры па вучобе ў інстытуце. Гэта было сапраўднае адкрыццё для ўсіх нас. Яе акварэлі, такія тонкія і празрыстыя, злёгку самотныя адгукаліся ў нашых душах, пакідалі незабыўны след у таго, хто прыходзіў на гэты вернісаж.

І міжволі гаворка перакідваецца пра нашыя рэкі, пра творцаў, паэтаў, пісьменнікаў, якія рамантычна-узнёсла спявалі гімн сваім вялікім ці малым рэчкам. Перадусім, Якуб Колас. Нёман... Прыпяць. Як гэта ў яго: "Спакойна і павольна, як ў зачараваным сне, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну". У Ларысы Геніюш зборнік вершаў названы "Невадам з Нёмана". У Яўгеніі Янішчыц – родная Ясельда. У Ніла Гілевіча – Гайна. Бярэзіна з пакручастымі высокімі берагамі, увасобленая ў творах мастака Віталя Цвіркі. На ягоных жывапісных палотнах яна такая шырокая, разлітая, як у веснавы павадак, з чырвоным, як поўня, сонцам на далёкім гарызонце. І зноў жа Драздовіч – «Між Мнютай і Аутай», рачулкамі, хай сабе і не такімі шырокімі, як Бярэзіна, ды непаўторнымі па сваёй прыгажосці, ціхімі, ласкавымі і самотнымі.

Шацілкі... Светлагорск. Каб адразу трапіць па адрасе ў карцінную галерэю, трэба запытацца ў першага, хто трапіць на вочы, інačай між соснаў гэтага светлага горада можам заблудзіцца. Георг цісне на тармазы. Прыпыняемся. На нашае пытанне чуем: «Мы не месные, не адседава». Едзем далей. Насустрач нам віхлястай паходкай пляцецца хударлявы дзяцюк з вусамі пад песняроў, з недаспана-памятым тварам. Па ўсім відаць, на добрым падпітку. Мікола Купава будзе казаць, што няма шанцаў пачуць ад яго хоць што-небудзь. Я ж, наадварот, пярэчу: «Гэта мясцовы інтэлігент. Бачыш? Пры гальштуку, вусы падстрыжаныя і сандалеты на босую нагу.» «Чалавеча, – пытаюся, – як пад'ехаць да карціннай галерэі?» Той на хвіліну прыпыняецца. Пралічвае магчымыя варыянты, як у вядомай тэлеперадачы Максіма Галкіна «Хто хоча стаць мільянерам», і на пытанне адказвае пытаннем: «Карцінная галерэя? Там, дзе вісяць карціны...» Правільна, дружна адказваем мы. Думай, Вася, думай. Ад віруса перапітага ці недапітага ягоны «кампутар» не хвіліну завісае, аднак выдае нескажоную інфармацыю. «Язджайце проста на мост, тады налева. Адна вулка, яшчэ адна, яшчэ, а потым яшчэ...» Я не паспяваю загібаць пальцы, колькі будзе гэтых «яшчэ». Як бы там ні было, але дзякуючы гэтай падказцы мы дакладна даехалі да месца прызначэння, дзе нас ужо чакалі гаспадары – Соф'я Шах і Ізяслаў Катляроў.

Здаецца нядаўна тое было, калі гэты асяродак культуры дзякуючы мясцовым энтузіястам станавіўся, так бы мовіць, на ногі. Дзесяць гадоў прайшло, як я тут быў. Энтузіяст гэтае справы Ізяслаў тады прапанаваў арганізаваць маю выставу ў залах толькі што адкрыўшайся новай галерэі. Адбылося... Зараз гэта ўжо сапраўдная выставачная пляцоўка з экспазіцыяй твораў вядомых нашых майстроў. У адной з залаў – графіка Міколы Купавы. Літаграфіі, акварэлі Міколы гарманічна ўпісваюцца ў інтэр'ер агульнай экспазіцыі. Што ёсць, тое ёсць. Мікола верны свайму абранаму шляху. Без асаблівай мітусні ён торыць сцяжыну на Парнас Вялікага Мастацтва. Выглядае як класік. Мне да душы ягонае імкненне ў сваіх апошніх творах выказацца пра набалелае, сённяшняе, актуальнае. І хай не крывяцца некаторыя мэтры пэндзля, аблашчаныя ўладай, як і тыя, хто ў палоне псеўдамадэрнізму, даганяючы Еўропу, забываюцца, якая зямля іх узгадавала, кідаюць папрокі, што ўсё гэта палітыка, а не мастацтва. Ім не хапае мужнасці адгукнуцца ў сваіх творах па надзённых праблемах нашага жыцця, як гэта робіць Мікола. Нешта не дужа іх хвалюе, што адбываецца з намі. Што суседскі мутант, двухгаловы імперскі арол, распусціўшы кіпцюры, кружыць над нашымі галовамі, нібыта над сваёй вотчынай, былым «Северо-Западным краем». Якраз на гэтую тэму Мікола Купава стварыў свой твор. «Страшце птушку праз якую свойская загіне» – заклікаў у свой час Янка Купала.

На вернісажы заўжды прысутнічае ўрачыстасць і святочнасць. Мясцовыя начальнікі ад культуры віншавалі мастака. Дзеткі гарадской мастацкай школкі бралі аўтографы. Я чуў, як між сабою шапталіся малыя: «А табе Купала на паштоўцы што-небудзь напісаў?» Во, будуць ганарыцца, што самога Купалу бачылі. Гэта яшчэ нішто, расказваў Мікола. Адна чыноўніца тэлефанавала ў майстэрню па нейкай справе: «Скажите, пожалуйста, можна Купалу к телефону?». Што значыць сугучча прозвішчаў. Гэта не так ужо і блага. У расейцаў свой Аляксандар Пушкін, а ў нас – свой... І зноў пра сугучча прозвішчаў. Зусім нядаўняе... Ідзе змаганне за гуманітарны беларускі ліцэй імя Якуба Коласа. Вучні ліцэя стаяць у пікетах, выказваюць свой пратэст. Міліцыя тут як тут. Галоўны па званні звяртаецца да сваіх падначаленых: «Мне самому как то неудобно... Я пока тут постою, а вы сходите в кабинет к Якубу Коласу. Разберитесь, что к чему». Вось такія пірагі і «клюквіі», як гаварыў некалі мой сябра.

Жыве ў Светлагорску цудоўная сям'я паэтаў-творцаў – Соф'я Шах і яе муж Ізяслаў Катляроў. Соф'я – вядомая беларуская паэтэса, аўтарка ўжо не аднаго «Вянка вянкоў санетаў». Ізяслаў – рускамоўны паэт. Чым не ілюстрацыя двухмоўнай палітыкі кіраўніка краіны. Розніца толькі ў тым, што Катляроў як сапраўдны інтэлігент не цураецца беларускага слова, і адкрыццё выставы Міколы Купавы вёў на мове, як сёння гавораць, тытульнай нацыі. У той час як кіраўнік краіны, калі і ўжывае роднае слова, дык са здзекам, падкрэсліваючы, што матчынай мовай карыстаюцца «нашы свядомыя». Чытай – апазіцыя.

У Мінск вяртацца было позна, і мы засталіся на начлег у гасцініцы, на першым паверсе якой, як цапамі па голым таку, грукатала музыка. Моладзь тусавалася купкамі. Араматна-едкі цыгарэтны пах невядомага паходжання засціў вочы. «Наркоты», – ціха прашаптаў нехта з нас. Мы падняліся на трэці паверх. У пакоі вісеў лаканічны плакат, які папярэджваў аб «случайных половых связях». Светлагорск – горад СНІДу, мільганула думка. А перад сном, яшчэ не было і дзесяці гадзінаў вечара, мясцовая тэлевізія круціла круты эратычны фільм. Чым ён адрозніваўся ад парнухі, цяжка заўважыць. Сон, нарэшце, адолеў нас. Усю ноч ні з таго ні з сяго мне сніўся вялізны чорны сабака, які гаварыў чалавечым голасам. І я зусім не дзівіўся гэтаму. З чорнай ашчэранай ляпы чырвоным гальштукам звісаў доўгі язык. Сабака папярэджваў пра «случайныя половые связи».

На раніцу, праглынуўшы буфетную сасіску з капустай, развіталіся з нашымі знаёмымі і рушылі на Мінск. Георг уключае прыймач, шукае патрэбную хвалю, і мы чуем знаёмыя галасы. Пазнаем перадачу радыёстанцыі Культура «Беларуская паэзія ў бардаўскай песні. Галіна і Барыс Вайханскія». Першы раз я пачуў іх у тэатры Янкі Купалы. Гэта было вясной. Канцэрт пад назовам «Песні вінаграднай лазы» пакінуў добрае ўражанне. У той вечар дэбютавала і дачка Вайханскіх – Кацярына. Прыгожая, стройная, нібыта сышла з глянцаванай вокладкі моднага часопіса. Голас срэбным званочкам разліваўся па зале Купалаўскага тэатра. Чуліся песні на французскай і ангельскай мовах. Што і казаць. Сённяшняе пакаленне не тое, што нашае. Мы, калі і вывучалі замежную мову, дык у большасці сваёй, ведалі, што яна ніколі не спатрэбіцца. Мураваная берлінская сцяна, здавалася, аддзяляла нас ад цывілізаванага свету навечна. А веданне мовы на ўзроўні «хэндэ гох», «ахтунг партызанэн» і «гітлер капут» не абцяжарвала наш слоўны запас. Радыёхвалі пад шум колаў даносілі прыгожыя галасы бардаў. Перадача ідзе нязмушана, раскавана. Ліхтаровіч час ад часу каментуе. Па ўсім відаць, з бардамі Галінай і Барысам у яго даўняя дружба і, як я разумею, плённая. Не без яго ўплыву Вайханскія звярнуліся да беларускага слова. І слова гэтае ў іх выкананні гучыць годна і прыгожа. Некаторыя песні з рэпертуару, якія раней выконваліся па-расейску, Георг спецыяльна перакладаў на нашую мову. Часам пры такім перакладзе атрымоўваліся зусім іншыя тэксты. І тады нараджалася новая песня. Як гэтая, пра кратоў, якая некалі пісалася спевакамі для спектакля «Дзюймовачка», а зараз у выкананні Барыса яна гучыць па-новаму. Арыгінальна, сучасна.

*...Урадлівасць зямелькі –*
*ад гною.*
*Не спрачайся, нябога,*
*са мной.*
*Стане ў прышласці роднай*
*зямлёю*
*Нават дурань, што*
*грэбаваў ёй!*

Пераадолець мяжу ад расейскіх тэкстаў да беларускіх, прызнаецца Барыс, дапамагла паэзія Уладзіміра Караткевіча: «Калі чытаеш Караткевіча, то адчуваеш, што гэта тваё, роднае. І тады адбываецца сугучча слова і мелодыі». Ягоная жонка Галіна мае прафесійную адукацыю, закончыла кансерваторыю па класу вакала. І гэта ў пэўнай ступені абумоўлівае высокі ўзровень выканання. А з прыймача пад колы самахода гучыць «Песня колаў» Уладзіміра Караткевіча, такая сучасная, такая маладычная:

*Колаў стук. І надзея. І горыч.*
*І ў начы гэтай золкай,*
*глухой*
*Ты не спіш з маім ворагам*
*поруч,*
*Як не сплю я з цемрай сваёй.*

**Алесь МАРА**

 



# «Клічу вас я на пабеду...»

## Антыгітлераўская творчасць Янкі Купалы

Цяжкі, пакутлівы шлях праз пекла Другой сусветнай вайны давялося прайсці нашаму народу. Разам з народам пісьменнікі сваім словам набліжалі перамогу. Сярод іх быў і Янка Купала.

Вайна застала Янку Купалу ў Каўнасе. У той жа дзень поездам ён выехаў у Мінск і піша ў «Звязду» артыкул аб вераломным нападзе фашысцкай Германіі. Купала закончыў свой артыкул такімі прарочымі словамі: «Вораг знойдзе сабе магілу на нашай зямлі». Гэта было першае публіцыстычнае выступленне паэта ў дні вайны, але яно не ўбачыла свет, бо «Звязда» 24 чэрвеня 1941 года не выйшла з друку.

Заставацца ў Мінску было небяспечна, і Янка Купала з жонкай Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч паехалі на дачу ў Ляўкі, на Аршаншчыну. У той жа дзень, 24 чэрвеня, згарэў дом паэта ў Мінску, а з ім і ўсё тое, што збіралі Луцэвічы: асабісты архіў, рукапісы, пісьмы, унікальная бібліятэка ў 20 тысяч тамоў. А 3 ліпеня згарэла і дача паэта ў Ляўках. Янка Купала скіраваўся ў Маскву, куды прыбыў якраз у дзень свайго нараджэння, 7 ліпеня.

11 ліпеня 1941 года ў газеце «Известия» з'явіўся купалаўскі артыкул «Узнялася Беларусь» – першае выступленне народнага паэта ў цэнтральным друку перыяду Вялікай Айчыннай вайны, а 17 ліпеня зноў жа ў газеце «Известия» быў надрукаваны яшчэ адзін яго артыкул «Не будзе Беларусь рабом нямецкіх баронаў», у якім Купала пісаў: «Не ў першы раз сустракаць палям і лясам злых ворагаў. Прыйшлі крывавыя дні, але гісторыя беларускага народа бачыла іх нямала. І не здрыгнецца душа ад гарматнага грому і звону штыкоў і шабель».

24 ліпеня ў газеце «Гомельская праўда» з'явіўся зварот Янкі Купалы і Якуба Коласа да беларускага народа, у якім народныя паэты пісалі: «Да цябе, наш беларускі народ, звярочваемся мы, твае сыны, з гэтымі словамі... Біце разбойнікаў, дзе толькі можна біць, ганіце прэч з нашай зямлі. На змаганне, на перамогу, наш родны беларускі народ».

10–11 жніўня 1941 года ў Маскве адбыўся І Усеславянскі мітынг. Купала выступіў на ім з прамовай. Паэт гаварыў: «...Вораг адчувае, што захопленая зямля – гэта яшчэ не ёсць зямля заваяваная, што свабодалюбівы беларускі народ нікому не скорыцца».

Героямі Купалавых артыкулаў «Народная вайна», «Аб народнай вайне», «Зямля гарыць пад нагамі фашыстаў», «Партызанскі ўдар» і інш. былі лепшыя сыны і дочкі беларускай зямлі, аб якіх паэт пісаў, што «яны сваю адданасць Радзіме пераварылі ў подзвігі змагання з подлым ворагам. Яны высока ўзнялі сцяг непакорнасці і «нашай блізкай перамогі».

З вялікай увагай, бацькоўскай любоўю сачыў Купала за баявымі дзеяннямі беларускіх партызан, па крупінцы збіраў ён матэрыял аб гераічных партызанскіх дзеяннях. І вось 19 верасня 1941 года завершаны гнеўны верш-заклік «Беларускім партызанам», які гучаў нібы набат, нібы колакал, клікаў да помсты і расплаты:

*Партызаны, партызаны,*
*Беларускія сыны!*
*За няволю, за кайданы*
*Рэжце гітлерцаў паганых,*
*Каб не ўскрэслі век яны.*

*Не давайце гадам сілы*
*Над сабою распасцерць,*
*Рыйце загадзя магілы,*
*Вырывайце з жывых жылы,*
*Кроў за кроў, а смерць за смерць!*

Лёс верша зайдросны. Ужо 28 чэрвеня 1941 года ён быў надрукаваны ў газеце «Красная звезда» ў перакладзе на рускую мову. У лютым 1942 года верш перадрукавала газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну», а потым газета «За свабодную Беларусь».

Пазней верш «Беларускім партызанам» друкавалі ў многіх цэнтральных і беларускіх газетах і часопісах, франтавых і партызанскіх выданнях. Гэты верш перапісваўся, завучваўся напамяць, быў перакладзены на розныя мовы.

Шчыміць сэрца, калі чытаеш словы Купалы, якія ён сказаў у кастрычніку 1941 года перад ад'ездам у Казань: «Я кожны дзень думаю, як будзем мы ісці па Беларусі, я часта ў сне бачу вуліцы ў вёсках, новыя дамы ў спаленых гарадах. Мы будзем будаваць дамы, як у казцы – горад у дзень. Калі б я не быў паэтам і старым чалавекам, я хацеў бы быць каменшчыкам пасля вайны».

Загадкавая трагічная смерць паэта ў Маскве 28 чэрвеня 1942 года, напярэдадні 60-гадовага юбілею, не дала яму дажыць да вызвалення роднай Беларусі ад захопнікаў. Сваім палымяным публіцыстычным і паэтычным словам Янка Купала паклаў не адну цаглінку ў падмурак гэтых шчаслівых падзеяў любімай зямлі.



**Янка Купала сярод удзельнікаў мітынгу прадстаўнікоў беларускага народа. Казань, 18 студзеня 1942 года. Злева направа: П.Калінін, В.Карасёў, К.Гораў, Янка Купала, Кузьма Чорны, І.Рыжыкаў, Ц.Гарбуноў**

**Глафіра КУШАЛЬ**
**Загадчыца навукова-экспазіцыйнага аддзела Дзяржаўнага Літаратурнага музея Янкі Купалы**

# Думка і слова

## Да праблемы ўнутранага маўлення ды мыслення на пэўнай мове

Праблема мовы і мыслення заўсёды лічылася адной з найбольш прыярытэтных ў псіхалёгіі. Гэта, напэўна, нездарма. Яе вырашэньне дало б адказ на пытаньне аб паходжаньні мысленьня, мовы, маўленьня, магчыма, інтэлекту ды сьвядомасьці. Да таго ж, гэтая тэма знаходзіцца ў сьфэры інтэрэсаў філязофіі, лінгвістыкі, псіхафізіялёгіі. Цікавасьць абумовіла досыць вялікую колькасьць досьледаў па праблеме. У нашай краіне гэтай тэмай займаўся, у прыватнасьці, прафэсар Ярчак.

Узгаданая праблема мае шмат адгалінаваньняў, і ўнутранае маўленьне, а таксама мысленьне на пэўнай мове – два зь іх. Унутранае маўленьне – напэўна цэнральнае зьвяно праблемы. Яе можна ўявіць як пасярэдніка паміж мовай і мысленьнем. Л.С.Выгоцкі наагул не падзяляў мову ды мысленьне, лічыў, што думка «не фармулюецца, а фармуецца ў слове».

Мысленьне на пэўнай мове таксама неаднаразова дасьледвалася. Пры гэтым уздымалася пытаньне, ці то чалавек думае на пэўнай мове, ці то без дапамогі мовы наагул. Вывучаліся таксама адрозьненьні працэсу думкі на роднай і на замежнай мове.

Нягледзячы на досьледы, праблема застаецца актуальнай. Перш за ўсё таму, што досьледы далі супярэчлівыя вынікі. Акрамя таго, досьледамі былі закрануты далёка не ўсе аспекты праблемы. Зрэшты, практычныя вынікі дасьледваньняў, на нашую думку, былі невялікія.

Перш зьвернемся да супярэчнасьцяў. Гэтак, існуюць два падыходы да «моўнасьці» мысленьня. Напрыклад, Н.Жынкін сцьвярджаў, што мысленьне адбываецца пры дапамозе невербальнага дэнататнага коду. Б.Бляяеў меркаваў, што мысленьне ажыцьцяўляецца на пэўнай мове (роднай ці замежнай).

На наш час не існуе адзінага погляду на ўнутранае маўленьне. З вынікаў эксперыментаў дакладна невядома, ці ўдзельнічаюць цягліцы (тыя, што працуюць пры не ўнутраным маўленьні ў маўленьні ўнутраным). Эксперыменты Сакалова ды іншых дасьледчыкаў даюць супярэчлівую інфармацыю на гэты конт. Таксама існуюць гіпотэзы што да варыянтаў (у пэўных выпадках – стадыяў) унутранага маўленьня. Іх называюць уласна ўнутранае маўленьне і ўнутранае прагаворваньне і інш.

Зрэшты, існуе супярэчлівасьць у поглядах на тое, ці існуе ўвогуле мысленьне на замежнай мове. Бляяеў лічыў, што так, існуе, а В.Арцёмаў і шмат хто іншы баранілі супрацьлеглую пазіцыю. Увогуле, немагчымасьць мысленьня на пэўнай мове лягічна вынікае з канцэпцыі мысленьня як аперацыі дэнататамі. Хоць магчыма, што мысленьне на замежнай мове будзе меньш абапірацца на дэнататы з-за цяжкасьцяў іх вылучэньня.

Існуе меркаваньне, згодна якому, словы замежнае мовы могуць мець непасрэдную сувязь з паняцьцямі пры пэўным тыпе білінгвізму, хоць доўгі час гэта лічылася немагчымым.

Зараз пярэйдзема да некаторых момантаў, узровень распрацаванасьці якіх не падаецца канчатковым. Шмат увагі надавалася асаблівасьцям мысленьня пры вывучэньні замежнае мовы. Было б вельмі цікава прасачыць тыя ж асаблівасьці пры вывучэньні беларускае мовы ў нашых складаных сацыялінгвістычных умовах. Вось толькі адна праблема для прыкладу. Ёсьць аўтар, які сьцьвярджае, што студэнты зазнаюць цяжкасьці пры канспектаваньні выступу беларускамоўнага лектара (Кочетов А. И. Теория формирования личности. Ч.1. Мн., 1997). У прынцыпе, гэта, канечне, павінна быць праблемай гэтых студэнтаў, а не лектара і не беларускае мовы. Але ў нас хутчэй будзе наадварот. Таму неабходна дасьледваньне таго, ці студэнты сапраўды няздольныя думаць на роднай мове, а калі гэта ўсё ж так (у ва што ня хочацца верыць), дык то распрацоўваць карэкцыйныя меры. Усё вышэй узгаданае дадае да праблемы педагагічна ды сацыяльна псіхалягічныя кампаненты.

Потым, існуе шмат досьледаў унутранага дыялёгу. У нашай краіне яго падрабязна дасьледваў Кучынскі. Але дасьледваўся ў асноўным той варыянт унутранага дыялёгу, што выкарыстоўваецца пры вырашэньні актуальных задачаў, то бок разгорнуты і практычна абсалютна сьвядомы. Рызыкуючы заглыбіцца ў ненавуковыя абшары, неабходна заўважыць, што ў цэлым шэрагу эзатэрычных, філязофскіх ды рэлігійных выданьняў унутраны дыялёг разглядаецца крыху інакш. Напрыклад, у Кастанэды і Судзукі – гэта несупыннае, амаль несьвядомае маўленьне, якое замінае чалавеку сканцэнтравацца на пэўнай існасьці. З гэтае нагоды зь ім трэба змагацца. Перамога ў гэтай барацьбе наблізіць удасканаленьне чалавека. Цікава, што гэтакі падыход амаль не разглядаецца на навуковым узроўні.

На практыцы вынікі досьледаў у разглядаемым накірунку часьцяком ужываліся ў навучаньні замежнае мове. Падаецца надзвычай цікавым і карысным ужыць іх пры вывучэньні беларускае мовы, напрыклад, падбаць аб разьвіцьці моўнага мысленьня ў малых дзетак, каб зь іх потым не павырасталі «студэнты з цяжкасьцямі».

Можна ўзняць пытаньне шырэй: неабходна вывучаць беларускую мову (псіхалягічна ды псіхалінгвістычна) з пункту гледжаньня кагнітыўнага падыходу, а не толькі асобаснага ды сацыяльна-псіхалягічнага.

Далей, цікава прасачыць асаблівасьці беларускае мовы як фактара фармаваньня асобы і фактара сьвядомасьці, бо агульныя працы (недатычныя пэўнай мовы) па гэтых тэмах вядомы. Нарэшце, цікавым падаецца практычны падыход да ўнутранага дыялёгу, сустракаемы ўва вышэй узгаданай літаратуры. Пэўна, сінтэз навуковага падыходу зь ненавуковым можа ў дадзенай галіне прынесьці вялікі плён.

Вядома, гэты артыкул зьяўляецца толькі спробаю акрэсьліць невялікае кола з тых праблем, што маюць быць далей дасьледваны ў дадзенай галіне псіхалёгіі. Ён уяўляе пэўную праграму дзеяньня, пакольки некаторыя з узгаданых у ім праблемаў нельга будзе абмінуць у нашае дысертацыі, хоць яе тэма і не мае непасрэднага стасунку зь імі.

**Дзяніс ТУШЫНСКІ**

 

# Улада вылюдкаў

## Урыўкі з кнігі «Сумерки» Аляксандра Якаўлева, з раздзела пра ленінскія і сталінскія рэпрэсіі

### Заклiканыя кіраваць

Узрушвае сваёй мужнасцю і празарлівасцю ліст геніяльнага вучонага, лаўрэата Нобелеўскай прэміі акадэміка Івана Паўлава, накіраваны ў снежні 1934 года ўраду СССР. Ён пісаў:

*«Вы дарэмна верыце ў сусветную рэвалюцыю. Вы сееце па культурным свеце не рэвалюцыю, а з вялізным поспехам фашызм. Да вашай рэвалюцыі фашызму не было. Гэта толькі палітычным дзіцяцям Часовага ўрада было мала нават дзвюх рэпетыцыяў перад Вашым Кастрычніцкім святам. Усе астатнія ўрады зусім не жадаюць бачыць у сябе тое, што было і ёсць у нас, і, канечна, своечасова здагадваюцца прымяніць для папярэджання гэтага тое, чым карысталіся і карастаецеся Вы, – тэрор і насілле. Хіба гэта не бачна кожнаму відушчаму?»*

Спашлюся і на больш позні дакумент. 20 снежня 1957 года старшыня КГБ Сяроў піша ў ЦК запіску аб антысавецкіх настроях буйнейшага вучонага XX стагоддзя, таксама нобелеўскага лаўрэата Льва Давыдавіча Ландау. У гутарцы з вучоным Мейманам Ландау заявіў:

*«Тое, што Ленін быў першым фашыстам, – гэта ясна».*

Вялікія вучоныя зрабілі гэтую выснову, не ведаючы і сотай долі той інфармацыі, якая даступная нам сёння».

«Гімнам рабочага класа наперад будзе песня нянавісці і помсты, – пісала газета «Праўда» 31 жніўня 1918 года, паўтараючы словы Ф.Дзяржынскага, які сказаў, што *«бальшавікі закліканы гісторыяй напраўляць і кіраваць нянавісцю і помстай».*

«У Расіі да гэтага часу спрачаюцца аб відочным: убіраць Леніна з маўзалея ці не, лічыць яго аўтарам шчасця на ўсёй планеце ці не, захоўваць яго выявы ў тысячах бронзавых вырадкаў на гарадскіх плошчах і іншых месцах ці не».

### Дзіцячы ГУЛАГ

Няма большай подласці, чым вайна ўлады з дзецьмі з выкарыстаннем усёй сілы карнага апарату. Абапіраючыся на ўказанні Палітбюро ЦК, асабіста Леніна і Сталіна, бальшавікі стварылі асаблівую сістэму «апальнага дзяцінства». Гэтая сістэма мела ў сваім веданні дзіцячыя канцлагеры і калоніі, мабільныя прыёмна-размеркавальныя пункты, спецыяльныя дзіцячыя дамы і яслі. Дзеці павінны былі забыць, хто яны, адкуль родам, хто і дзе іх бацькі. Гэта быў асаблівы – дзіцячы ГУЛАГ.

«Калі звярнуцца да самых першых імёнаў у дзіцячым расстрэльным рэестры, то трэба пачынаць з расстрэлу сям'і цара ў Екацярынбургу. Гэты расстрэл арганізаваў урад Леніна. Потым ён арганізуе яшчэ мільёны расстрэлаў».

«У 1919 годзе ў Петраградзе расстралялі родных афіцэраў 86-га пяхотнага палка, які перайшоў да белых, у тым ліку і дзяцей. У траўні 1920 года газеты паведамілі пра расстрэл у Елізаветградзе чатырох дзяўчынак 3-7 гадоў і старой маці аднаго з афіцэраў. «Горадам мёртвых» называлі ў 1920 годзе Архангельск, дзе чэкісты расстрэльвалі дзяцей 12-16 гадоў».

«Няма даравання таму, што зафіксавана ў аператыўным загадзе Яжова № 00486 ад 15 жніўня 1937 года «Аб аперацыі па рэпрэсіраванні жонак і дзяцей здраднікаў радзімы». Прывяду некаторыя палажэнні гэтага жахлівага дакумента:

«**Падрыхтоўка аперацыі.** Яна пачынаецца з пільнай праверкі кожнай сям'і, намечанай да рэпрэсіравання. Збіраецца дадатковы кампраметуючы матэрыял. Затым на яго аснове складаюцца: а) агульная даведка на сям'ю..., б) асобная кароткая даведка на сацыяльна небяспечных і здольных да антысавецкіх дзеянняў дзяцей, старэйшых за 15-гадовы ўзрост; в) імянныя спісы дзяцей да 15 гадоў асобна дашкольнага і школьнага ўзросту. Даведкі разглядаюцца наркомамі ўнутраных справаў рэспублік і начальнікамі ўпраўленняў НКУС краёў і абласцей. Апошнія: а) даюць санкцыі на арышт і вобшук жонак здраднікаў радзімы; б) акрэсліваюць мерапрыемствы ў адносінах дзяцей арыштаванай.

**Парадак арыштаў і вобшуку**. Арышту падлягаюць жонкі, якія састаяць у юрыдычным ці фактычным шлюбе з асуджаным на момант яго арышту. Арышту падлягаюць таксама і жонкі, якія хоць і былі з асуджаным у разводзе на момант яго арышту, але датычныя да контррэвалюцыйнай дзейнасці асуджанага, якія хавалі яго, якія ведалі аб контррэвалюцыйнай дзейнасці, але не паведамілі пра гэта органам улады. Пасля выканання арышту і вобшуку арыштаваныя жонкі асуджаных канваіруюцца ў турму. Адначасна, па правілах, названых ніжэй, вывозяцца дзеці.

**Парадак афармлення справаў**. На кожную арыштаваную і на кожнае сацыяльна небяспечнае дзіця, старэйшае за 15 гадоў, заводзіцца следчая справа. Яны напраўляюцца на разгляд Асобай нарады НКУС СССР.

**Разгляд справаў і меры пакарання**. Асобая нарада разглядае справы на жонак здраднікаў радзімы і тых іхніх дзяцей, старэйшых за 15 гадоў, якія з'яўляюцца сацыяльна небяспечнымі і здольнымі да ўчынення антысавецкіх дзеянняў. Сацыяльна небяспечныя дзеці асуджаных, у залежнасці ад іх узросту, ступені небяспекі і магчымасці выпраўлення, падлягаюць заключэнню ў лагеры ці выпраўленча-працоўныя калоніі НКУС ці выдварэнню ў дзіцячыя дамы асобага рэжыму Наркамасветы рэспублік.

**Парадак прывядзення прыгавораў у выкананне.** Асуджаныя сацыяльна небяспечныя дзеці накіроўваюцца ў лагеры, выпраўленча-працоўныя калоніі НКУС ці ў дамы асобага рэжыму Наркамасветы рэспублік па персанальных нарадах ГУЛАГа НКУС для першай і другой груп і АХУ НКУС СССР – для трэцяй групы.

**Размяшчэнне дзяцей асуджаных.** Усіх засталых пасля асуджэння дзяцей-сіротаў размяшчаць: а) дзяцей ва ўзросце ад 1–1,5 гадоў да 3-х поўных гадоў у дзіцячыя дамы і яслі Наркаматаў аховы здароўя рэспублік у пунктах жыхарства асуджаных; б) дзяцей ва ўзросце ад 3-х поўных гадоў і да 15 гадоў – у дзіцячыя дамы Наркамасветы іншых рэспублік, краёў і абласцей (згодна з устаноўленай дыслакацыяй) і па-за межамі Масквы, Ленінграда, Кіева, Тбілісі, Мінска, прыморскіх і пагранічных гарадоў. У адносінах да дзяцей, старэйшых за 15 гадоў, пытанне вырашаць індывідуальна. Немаўляты накіроўваюцца разам з іх асуджанымі маці ў лагеры, адкуль па дасягненні ўзросту 1–1,5 гады перадаюцца ў дзіцячыя дамы і яслі Наркаматаў аховы здароўя рэспублік. У тым выпадку, калі сірот пажадаюць узяць сваякі ( не рэпрэсіраваныя) на сваё поўнае забеспячэнне, гэтаму не перашкаджаць.

**Падрыхтоўка да прыёму і размеркавання дзяцей.** У кожным горадзе, у якім праводзіцца аперацыя, спецыяльна абсталёўваюцца прыёмна-размеркавальныя пункты, у якія будуць дастаўляцца дзеці адразу пасля арышту іх матак і адкуль дзеці будуць накіроўвацца потым па дзіцячых дамах.



Паплечнікі па рэпрэсіях нясуць Сталіна ў маўзалей да Леніна

«Колькі разоў я перачытваў гэты загад і кожны раз адчуваў збянтэжанасць: ці не падробка ўсё гэта? Не, так яно і было. Па стану на 4 жніўня 1938 года ў рэпрэсаваных бацькоў былі адняты 17.355 дзяцей і намячаліся да адняцця яшчэ 5.000 дзяцей. 21 сакавіка 1939 года Берыя паведамляў Молатаву пра тое, што ў выпраўленча-працоўных лагерах у зняволеных матак знаходзяцца 4.500 немаўлят, якіх прапаноўваў адняць і наперад прытрымлівацца гэтакай жа практыкі. Дзецям пачалі прысвойваць новыя імёны і прозвішчы».

«Адной з падставаў да чарговай жорсткасці крымінальнага заканадаўства ў адносінах да дзяцей стаў ліст Варашылава ад 19 сакавіка 1935 года, накіраваны на імя Сталіна, Молатава і Калініна. Дзевяцігадовы падлетак напаў з нажом на сына намесніка пракурора Масквы Кобленца. Варашылаў не разумеў: чаму б «падобных нягоднікаў» не расстрэльваць? Адгукаючыся на просьбу аб расстрэле «падобных нягоднікаў», ЦВК і СНК СССР 7 красавіка 1935 года выдаюць пастанову «Аб мерах барацьбы са злачыннасцю сярод непаўнагадовых». У ім пазначана: *«...непаўнагадовых, пачынаючы з 12-гадовага ўзросту, прыцягваць да крымінальнага суду з прымяненнем усіх мераў крымінальнага пакарання».* У сувязі з гэтым на месцах паўстала пытанне аб магчымасці скарыстання да дзяцей вышэйшай меры пакарання. Тлумачэнне Палітбюро ад 20 красавіка 1935 года пацвярджала, што да ліку мер крымінальнага пакарання адносіцца таксама і вышэйшая мера (расстрэл).

У траўні 1941 года НКУС выдае распараджэнне аб стварэнні агентурна-паведамляльнай сеткі ў працоўных калоніях падлеткаў. Рэзідэнтамі павінны быць чальцы УКП(б)...

Яркім прыкладам фальсіфікацыі абвінавачванняў супраць непаўнагадовых з'яўляецца справа 16-гадовага Юрыя Каменева, расстралянага па прыгавору Ваеннай калегіі ад 30 студзеня 1938 года. Не маючы ніякіх доказаў яго вінаватасці, Ваенная калегія ў сваім прыгаворы пазначыла: «Каменеў, які знаходзіўся пад ідэйным уплывам свайго бацькі – ворага народа Каменева Л.Б., засвоіў тэрарыстычныя ўстаноўкі антысавецкай, трацкісцкай арганізацыі; азлоблены рэпрэсіяй, ужытай да яго бацькі як да ворага народа, Камянеў Юрый у 1937 годзе ў г. Горкім выказваў сярод навучэнцаў тэрарыстычныя намеры ў адносінах да кіраўнікоў УКП (б) і Савецкай улады».

У гады Айчыннай вайны гітлераўцы гналі дзяцей у адзін бок – у Германію, а сталінцы – у супрацьлеглы – у Сярэднюю Азію, Казахстан, на Усход. У далёкі край паехалі дзеці немцаў, чачэнцаў, калмыкаў, інгушоў, карачаеўцаў, балкарцаў, крымскіх татараў, балгараў, грэкаў, армянаў, туркаў-месхецінцаў, курдаў, а пасля вайны – украінцаў, эстонцаў, латышоў, літоўцаў. На красавік 1945 года ў Казахстане, Кіргізіі і Узбекістане апынуліся 34.700 дзяцей-карачаеўцаў, маладзейшых за 16 год. Ва Узбекістан прывезлі 46.000 дзяцей з Грузіі. У першыя гады жыцця на новых месцах смяротнасць сярод перасяленцаў дасягала 27 працэнтаў на год, галоўным чынам гэта былі дзеці.

Горкі лёс спецпасяленца давялося спазнаць калмыцкаму паэту Давыду Кугульцінаву.

«*Пераступіў парог,* – узгадвае Кугульцінаў, – *дзеці. Вялізная колькасць дзяцей да 6 гадоў. У маленькіх ватоўках, у маленькіх ватных штанах. І нумары – на спіне і на грудзях. Як зняволеныя. Гэта нумары іхных маці. Яны звыкліся бачыць каля сябе толькі жанчын, але чулі, што ёсць таты, мужчыны. І вось падбеглі да мяне, галосяць: «Тата, татачка». Гэта самае страшнае – калі дзеці з нумарамі. А на бараках: «Дзякуй таварышу Сталіну за наша шчаслівае дзяцінства».*

Сёння шмат хто з лагерных дзяцей ужо ў вельмі сталым узросце... І недалёкі той час, калі сталінскія сіроты застануцца адзінымі жывымі сведкамі злачынстваў фашысцкага рэжыму. А потым і яны сыдуць».

**NovajaGazeta**

# Мы бунтуем, стоячы на каленях

## *Інтэрв'ю Аляксандра Якаўлева «Новой газете» (друкуецца ў скароце)*

**– Аляксандр Мікалаевіч, вы ўзначалілі камісію па рэабілітацыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў у 1987 годзе.**

– Гэта была камісія Палітбюро ЦК КПСС па дадатковым вывучэнні матэрыялаў, звязаных з рэпрэсіямі, што мелі месца ў перыяд 30-40-х і пачатку 50-х гадоў. Разумееце? Нават у 1987, калі палітычная атмасфера ў краіне мянялася да лепшага, Палітбюро не захацела кранаць ленінскі перыяд рэпрэсіяў... Прынцыповыя адносіны да рэпрэсіяў не змяніліся. Нават у выпадку станоўчых рашэнняў размова ішла не аб рэабілітацыі, а толькі аб амністыі.



**– Шмат што стала вядома пасля XX з'езда партыі, потым з'явіўся «Архіпелаг ГУЛАГ», потым проза Шаламава...**

– Далёка не ўсё было вядома, сістэма супраціўлялася выданню. З аднаго боку, быццам бы дазволена гаварыць праўду, а з другога – пастаянна: «не захапляйцеся, не захапляйцеся». А што гэта такое, скажам, для рэдактара газеты? Забарона. Да і цяпер мы ведаем не ўсё. Іншыя і не жадаюць ведаць, упарта працягваюць верыць міфам. Ну, прыкладам, Мікалая Бухарына дасюль многія лічаць у гуманістах, лібералах.

**– Вы ў сваёй кнізе даяце яму забойчую характарыстыку.**

– Па заслугах. Працытую ліст Бухарына, апублікаваны ў французскай газеце ў 1928 годзе. Вось што «гуманіст» піша: «Мы праводзім эксперыменты на жывым целе народа... Дакладна як студэнт-першакурснік працуе над трупам валацугі, які ён раздабыў у анатамічным тэатры. Учытайцеся ўважліва ў нашу Канстытуцыю. Там шчыра напісана, што нас цікавяць не Савецкі Саюз, не яго складаныя часткі, а барацьба супроць сусветнага капіталу і сусветная рэвалюцыя, якой мы ахвяруем краіну...» І далей: «Тут у нас, дзе мы абсалютныя гаспадары, мы абсалютна нікога не баімся. Краіна, змучаная рэвалюцыямі, войнамі, хваробамі, голадам – гэта сродак небяспечны. Але раскошны!.. Няма ў Расіі ніводнага дома, дзе б мы не забілі, так ці йнакш, бацьку, маці, дачку, сына, якоганебудзь сваяка ці сябра. Ну што ж?» Як вам?..

А хто мы?.. Хто мы такія? Гэта пакутлівае для мяне пытанне. І пакуль мы не адкажам на яго, нічога не пабудуем. Пакуль мы не ўсвядомім, што ў 1917 годзе была не Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная, а самая натуральная контррэвалюцыя, пакуль не ўразумеем, што грамадзянская вайна была арганізаваная Леніным, што ён першапачаткова стварыў таталітарную дзяржаву.

**– Ленін – злачынца. А хто ж мы?**

– Рабы. Да гэтага часу – рабы. Якія дазволілі і дазваляюць ставіць над сабой эксперыменты.

# Армія Эстоніі скарачае прызыў

***Прынцып: менш людзей, але болей здольнасцяў***

Міністэрства абароны Эстоніі змяніць прынцыпы пабудовы сістэмы дзяржаўнай абароны. Гэта прадыктавана надыходзячым уступленнем Эстоніі ў НАТО.

Каментуючы вайсковыя рэформы, прэм'ер-міністр Эстоніі Юхан Партс заявіў, што ў сувязі з блізкім далучэннем да НАТО і новымі тэндэнцыямі ў сферы міжнароднай бяспекі Сілы абароны Эстоніі павінны, найперш, складацца з падраздзяленняў, якія гатовы да хуткай перадыслакацыі, маюць сучаснае ўзбраенне і сфарміраваны на прафесійнай аснове.

Па словах міністра абароны Маргуса Хансана, колькасць прызыўнікоў зараз скарачаюць многія новыя чальцы НАТО. Хансан адзначыў, што плануемая рэформа заснавана на аналізе бяспекі, які правялі спецыялісты НАТО, згодна з якім у бліжэйшай будучыні буйнамаштабны ваенны канфлікт у Еўропе малаверагодны. Прамой ваеннай пагрозы для сваёй бяспекі не бачыць і Эстонія.

Па меркаваннях эстонскіх ваенных экспертаў, Эстоніі можа пагражаць «маргіналізацыя» ўнутры Еўрапейскага Саюза і НАТО ў выпадку, калі краіна не здолее ўнесці свой палітычны ці ваенны ўнёсак у абаронную сістэму гэтых арганізацыяў. Армія, якая камплектуецца па прызыву, не дае магчымасці даць у падначаленне гэтых міжнародных структур дастатковую колькасць падрыхтаваных салдат, здольных удзельнічаць у ваенных і міратворчых аперацыях разам з высокакваліфікаванымі еўрапейскімі і амерыканскімі вайскоўцамі.



У 1990-х гадах Эстонія будавала свае Сілы абароны, зыходзячы з прынцыпу самастойных дзеянняў у выпадку знешняй агрэсіі, не спадзеючыся на дапамогу звонку. У складзе НАТО Міністэрства абароны Эстоніі бачыць для Сілаў абароны новыя мэты, якія заключаюцца ва ўдзеле ў міратворчых аперацыях, а таксама ліквідацыі наступстваў розных прыродных і тэхнагенных катастрофаў.

У выпадку ж ваеннага нашэсця Эстонія разлічвае на параграф 5 Дамовы аб стварэнні НАТО, згодна з якім напад на адну з краінаў НАТО азначае напад на ўсе астатнія краіны альянса – з адпаведнымі ваеннымі наступствамі для магчымага агрэсара.

Згодна з прапанованай эстонскага Міністэрства абароны, частка сродкаў, вызваленых у выніку скарачэння колькасці вайскоўцаў тэрміновай службы і рэзервістаў, плануецца перадаць ваенізаванай добраахвотнай арганізацыі «Кайтселійт», чыя вага ў новай сістэме бяспекі Эстоніі значна павысіцца.

Зараз «Кайтселійт» уваходзіць у склад Сілаў абароны Эстоніі, аднак яго роля дасюль галоўным чынам зводзілася да правядзення ваенна-спартыўных гульняў, ахоўнай дзейнасці, прыцягнення да ваеннай справы моладзі і паказальных патрыятычных акцыяў. У будучыні навучанне і дзейнасць эстонскіх добраахвотнікаў павінны быць прыведзены да агульных стандартаў узброеных сілаў краін-чальцоў Паўночнаатлантычнага альянсу.

Ужо ў самым хуткім часе ў эстонскае войска стануць прызываць толькі тых маладых людзей, якія жадаюць у будучыні працягваць ваенную кар'еру. Першай з краінаў Балтыі аб скарачэнні колькасці прызыўнікоў паведаміла Літва. У Літве ў бліжэйшы час прызываецца на службу замест цяперашніх 4.500 чалавек на год будуць 2 тысячы. У Эстоніі ў выніку плануемай рэформы замест 3 тысяч прызыўнікоў на год будуць прызываць 1.500. «Нам патрэбна менш людзей, але болей здольнасцяў», – заявіў пры наведанні Эстоніі намеснік вярхоўнага камандуючага войскамі НАТО ў Еўропе адмірал Райнер Фэйст.

Радзіён ДЗЯНІСАЎ

# Украінскі «Вяпрук»

Украінскія збройнікі стварылі новы аўтамат, які атрымаў назву «Вяпрук». Пра гэта паведаміў украінскі Навуковы цэнтр дакладнага машынабудавання, які займаецца распрацоўкай новых відаў узбраенняў. У аўтамаце закладзена сістэма, пры якой механізм упраўлення агнём знаходзіцца наперадзе магазіна, а прыклад адсутнічае. Рукаяць са спускавым курком размешчана ў цэнтры цяжару аўтамата, што дазваляе весці агонь, утрымліваючы аўтамат адной рукой.

Пры стральбе з «Вепрука» аддача ідзе назад уздоўж восі ствала, а не ўверх і направа, як у аўтамата Калашнікава, што дазваляе весці больш прыцэльны агонь чэргамі. «Вяпрук» на чвэрць карацейшы за аўтамат Калашнікава, на 200 грам лягчэйшы, у ім на 43 дэталі менш, а кучнасць стральбы ў 2 разы вышэйшая. Гэты аўтамат таксама зручны і для ляўшы, што цяжка ў выпадку з аўтаматам Калашнікава. Асноўныя характарыстыкі «Вепрука»: патрон 5.45 мм, пачатковая хуткасць кулі 900 м/с, даўжыня аўтамата - 702 мм, даўжыня ствала 415 мм, вага з пустым магазінам 3.45 кг, ёмістасць магазіна 30 патронаў.

На распрацоўку ўкраінскай навінкі выдаткавана 100 тысяч даляраў. Кошт аўтамата супаставімы з коштам «АК» (некалькі соцень даляраў). Міністэрства абароны Украіны плануе да 2010 года закупіць дзесяткі тысяч «Вепрукоў».

Павел КЛІМЧАНКА

# Грэкі рыхтуюцца да Алімпіяды

Грэчаскія спецыялісты па бяспецы лічаць, што галоўнай пагрозай на Алімпійскіх гульнях наступнага года ў Афінах будзе тэракт з выкарыстаннем хімічнай зброі. Таму афінскае метро атрымае 24 тысячы процівагазаў - па 175 штук на кожны вагон.

Спецыялісты міністэрства абароны, аховы здароўя і грамадскага парадку зрабілі выснову, што Афіны павінны выдаткаваць 40 мільёнаў еўра толькі на папярэджанне магчымай хімічнай атакі. Усяго на мэты бяспекі ў часе Алімпіяды пойдзе 600 мільёнаў еўра.

Згодна з планамі, 13 шпіталяў у Афінах павінны атрымаць абсталяванне для дэгазацыі. Афіны будуць падзелены на «гарачыя», «цёплыя» і «халодныя» зоны. Для службоўцаў, якіх прыцягваюць для захавання бяспекі на працягу Алімпіяды, будзе закуплена дзве тысячы спецыяльных касцюмаў. Паліцыя і пажарныя атрымаюць пераносныя прыборы для вызначэння хімічнага заражэння. На станцыях метрапалітэна будуць усталяваны прыборы, якія даюць сігнал трывогі пры з'яўленні ў паветры атрутных рэчываў. Падобныя меры перасцярогі да гэтага часу прымаліся толькі ў метро Вашынгтона і ў тунелі пад Ла-Маншам. 50 тысяч паліцэйскіх і вайскоўцаў будуць ахоўваць бяспеку аліімпійцаў і гасцей гульняў. Гэта ў тры разы болей, чым было га гульнях у Сіднеі.

Мікалай КАТАВЕЦ

# «Сярэдзінны шлях» Тыбета

***Інтэрв'ю Далай-ламы адносна магчымасцяў вырашэння тыбецкай праблемы***

**– У гэтым годзе вы двойчы адпраўлялі ў Кітай эмісараў ураду Тыбета ў выгнанні. Ці назіраецца рэальны прарыў ў адносінах з кітайскімі ўладамі?**

– Адзіны рэальны прарыў у вырашэнні тыбецкай праблемы меў месца ў 1980-я гады. На жаль, ніякага прагрэсу з таго часу не дасягнута. З 80-х гадоў мы патрабуем самавызначэння, але ўжо не гаворым аб незалежнасці. Кітайцы гэта ведаюць.

**– Аднак, здаецца, кітайцы не гатовыя адмовіцца ад высунутых імі трох умоваў аднаўлення перамоваў. Як далёка вы гатовы пайсці, каб вярнуцца за стол перамоваў?**

– Я лічу, што гэтыя ўмовы ўжо выкананыя. Кітайцы патрабуюць, каб мы публічна прызналі Тыбет неад'емнай часткай Кітайскай Народнай Рэспублікі. Гэта ўжо зроблена, бо мы адмовіліся ад патрабавання незалежнасці. Што датычыць месца Тыбета ў адносінах да Кітая на працягу мінулых стагоддзяў, то няхай пра гэта судзяць гісторыкі: гэта яны павінны заявіць, што Тыбет заўсёды быў незалежнай краінай. Аднак мінулае ёсць мінулае. Сёння іншая сітуацыя, і трэба ўлічваць гэтую рэальнасць.

Другая ўмова палягае ў тым, каб тыбетцы адмовіліся ад усялякай антыкітайскай дзейнасці. Але мы яе не вядзем. Мы абмяжоўваемся пратэстам супраць парушэння правоў чалавека, якое ўчыняе пекінскі рэжым у Тыбеце, супраць рэпрэсіяў і прыніжэння, ад якіх пакутуе наш народ.



Трэцяя ўмова: тыбетцы павінны прызнаць Тайвань кітайскай правінцыяй. Але ж мы не падтрымоўваем ніякіх стасункаў з незалежнымі ўладамі Тайваня. У рэшце рэшт, Тайвань нас не датычыць. З нашага пункту гледзішча, сапраўдная праблема – гэта ўмовы жыцця тыбецкага народа, і наша галоўная мэта палягае ў іх паляпшэнні. Эканамічная сітуацыя ў Тыбеце пагаршаецца. Кітайцы масамі селяцца тут, каб «размыць» тыбецкую культуру. Пекінскі рэжым абмяжоўвае для нашых дзяцей магчымасць атрымаць адукацыю. Самі гэтыя дзеці аддаюць перавагу вывучэнню кітайскай , а не тыбецкай мовы, бо ведаюць, што інакш яны не знойдуць працу.

**– Вы выказаліся на карысць аўтаноміі і абралі «сярэдзінны шлях», які ўхваляюць далёка не ўсе тыбетцы. Як вырашыць гэтую праблему?**

– Тыбецкія маладзёжныя арганізацыі жадаюць незалежнасці, гэта праўда. Яны не згодныя са мной. Але мы не канфліктуем. Калі мой падыход сябе не апраўдае, гэтая моладзь будзе мець права патрабаваць незалежнасці

**– Колькі вам трэба часу, каб дамагчыся поспеху?**

– Калі праз два-тры гады мы не ўбачым ніякага выніку, мне будзе цяжка растлумачыць моладзі абгрунтаванасць «сярэдзіннага шляху». Мой тэзіс просты: калі кітайскі ўрад будзе паважаць нашу культуру і нашы фундаментальныя правы, мы будзем задаволены. І калі, у сваю чаргу, кітайскі народ хоць бы крыху далучыцца да тыбецкай духоўнасці, ад гэтага будзе ўзаемная карысць. Я сустракаў кітайцаў, якія плакалі, даведаўшыся, як іх краіна паводзіць сябе ў дачыненні Тыбета.

**– Вы прыхільнік ненасілля. Некаторыя тыбетцы ў гэтым таксама разыходзяцца з вамі...**

– Мала хто з тыбетцаў заклікае ўжыць насілле. Нават Тыбецкі маладзёжны кангрэс, які выступае за незалежнасць, не ўхваляе гэта.

**– Ці не цяжка быць адначасна і палітыкам, і духоўным лідэрам?**

– Я з'яўляюся палітычным лідэрам толькі таму, што абараняю нацыянальную справу Тыбета. Палітыканская палітыка мяне не цікавіць. Калі прыйдзе час вярнуцца ў Тыбет, я здыму з сябе ўсе палітычныя абавязкі.

Le Figaro

# Папярэджанне ад прыроды

Гэтым летам, калі спякота забрала 11,5 тысяч жыццяў у Францыі і выклікала спусташальныя пажары ў Партугаліі, Еўрапейская камісія (ЕК) выпусціла бюлетэнь, дзе паведамлялася, што працяглая засуха адбіваецца зменамі на сельскай гаспадарцы.

Высокія тэмпературы і недахоп вады на 25% зменшылі ўраджай кукурузы і цукровых буракоў у Італіі, а ўраджай пшаніцы ў Партугаліі ўпаў на 30%. Аднак у паўночнай Еўропе, якую засуха не кранула, ураджаі, наадварот, узраслі. Прыкладам, цёплае надвор'е дазволіла сабраць на 25% болей цукровых буракоў у Ірландыі і на 5% болей у Даніі і Швецыі. У Фінляндыі ўраджай рапса ўзрос на 12%.

Усе змены супадаюць з прагнозамі наступстваў глабальнага пацяплення, якія былі зроблены летась на бліжэйшыя 100 гадоў Юргенам Олезенам з дацкага Інстытута сельскагаспадарчых навук і Марка Біндзі з Фларэнційскага універсітэта ў Італіі. Іхны аналіз прадказвае, што вытворчасць сельскай гаспадаркі паўночнай Еўропы будзе расці, бо тут стане больш вільготна. Аднак у паўднёвай Еўропе змены тэмпературы прывядуць да недахопу вады і зменшэння ўраджаяў, а ў раёнах, дзе засуха будзе найбольшая, сельская гаспадарка можа спыніцца. З узмацненнем засухі на поўдні цяжка будзе падтрымліваць вытворчасць малака, і ў паўднёвай Еўропе ўзнікнуць рэгіёны, дзе весці гаспадарку будзе немагчыма. Калі вады пачне не хапаць і за яе пачнецца суперніцтва, то ў гэтым суперніцтве гарады атрымаюць верх над сельскай гаспадаркай.

У ЗША спецыялісты прадказваюць, што колькасць асадкаў на большай частцы тэрыторыі краіны ўзрасце, асабліва да канца стагоддзя. Аднак такія штаты, як Канзас, Каларада, Небраска, могуць пацярпець ад засухі і там сельскагаспадарчая вытворчасць спыніцца. На думку вучоных, нядаўняя спякота – гэта сур'ёзнае папярэджанне аб надыходзячых пераменах, і зараз самы час стварыць гнуткую сістэму вядзення сельскай гаспадаркі.

Ігар ДАМЕЛЬ

# ПАЭТЫ СЦЭНЫ

***Нататкі да гісторыі сучаснай беларускай тэатральнай рэжысуры (1985 – 2003 гады)***

**Сяргей ПАТАРАНСКІ**
**выкладчык зачыненага Нацыянальнага ліцэя імя Якуба Коласа**

## Атмасфера часу

У тэатральным жыцці Беларусі канца 80-х – пачатку 90-х гадоў такія спектаклі, як «Тутэйшыя» Янкі Купалы ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна, «Ромул Вялікі» Ф.Дзюрэнтмата ў пастаноўцы Валерыя Раеўскага, «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы ў пастаноўцы Барыса Луцэнкі, «Цырк Шардам» Хармса ў пастаноўцы Антона Грышкевіча, «Узлёт кар'еры Артура Уі» Б.Брэхта ў пастаноўцы Валерыя Мазынскага ды іншыя, сталі не толькі новым прачытаннем і адкрыццём класікі, але мелі непасрэдны ўплыў на грамадскія працэсы, якія адбываліся ў Беларусі.

Гэта быў час, калі ў эстэтыцы тэатр і рэжысура адмовіліся ад эзопавай мовы – і падтэкст вышшаў навонкі. Кожны з «паэтаў сцэны» шукаў свае непадобныя на іншых метафарычныя вобразы, шакіруючыя і эпатажныя хады.

Гэты час стаўся часам шматаблічнага тэатральнага руху. Папершае, узнік цэлы шэраг новых тэатраў: толькі ў Мінску – Маладзёжны, «ДзеЯ», «Вольная сцэна», Альтэрнатыўны, недзяржаўныя студыі Баркоўскага і Трухана, Таліпава, а таксама рэарганізацыя працы вядомых «акадэмічных флагманаў», дзе ўзніклі эксперыментальныя і малыя сцэны.

Новае рэжысёрскае пакаленне несла з сабой не толькі «абвостраны зуд смагі праўды», як тое заўважаецца ў рабоце пакаленняў папярэднікаў. Большасць васьмідзесятнікаў шукалі ўвасаблення кантэксту ў культуры, жадалі гаварыць з публікай аб праблемах менавіта нацыянальных сродкамі як беларускай, так і сусветнай драматургіі. Менавіта, з імёнамі Антона Грышкевіча, Мікалая Пінігіна, Рыда Таліпава, Аляксандра Гарцуева, Віталя Катавіцкага, Міколы Трухана, Віталя Баркоўскага звязанае ўвасабленне непасрэдна нацыянальнага беларускага кантэксту ў рэжысуры і тэатры Еўропы.

## «Тутэйшыя»

Яскравым прыкладам падобнага падыходу да тэатральнай творчасці стаў легендарны спектакль М.Пінігіна «Тутэйшыя» паводле забароненай доўгі час п'есы Янкі Купалы на сцэне акадэмічнага тэатра. Менавіта, гэтая пастаноўка прынесла рэжысёру вядомасць як на Радзіме, так і за яе межамі, ды вывела ягонае імя ў лідэры нацыянальнай рэжысуры. Па сутнасці, да сярэдзіны 90-х творчы метад Пінігіна, які вызначаўся здаровым узаемаспалучэннем нацыянальных і сусветных тэатральных традыцый, а таксама фіерычным містэрыялізмам, быў увасабленнем прагрэсіўных тэндэнцый у развіцці ўсяго Беларускага тэатра, а крытыка называла рэжысёра не інакш, як «новы беларускі геній».

Безумоўна, пастаноўкі рэжысёра ў Купалаўскім тэатры з'явіліся найвышэйшым творчым дасягненнем не толькі самога творцы і купалаўцаў, але ў вялікай ступені для ўсяго тэатра краіны. Такія спектаклі, як «Лысая спявачка», «Касцюмер», «Гаральд і Мод» па заходняй драматургіі, пастаноўка феерычнага вадэвіля «Ідылія» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, увайшлі ў залаты фонд лепшых твораў Беларускага тэатра. У апошнім выпадку рэжысёру, выконваючы сацыяльны заказ, нават прыйшлося, як кажуць, «падымаць» матэрыял, але, безумоўна, па рэжысёрскай задуме адпавядаючы кантэксту аўтара. Што, на жаль, не заўсёды адбывалася ў пазнейшых работах, калі Мікалая Пінігіна запрасілі на сталую працу ў Вялікі драматычны тэатр імя Таўстаногава, і на Беларусі рэжысёр праяўляў сябе больш у тэатральных антэпрызах бульварна-камерцыйнага кшталту.

Гледзячы гэтыя работы, бачыш, з аднаго боку, добрую руку рамесніка, які працуе прафесійна, але, з другога, складваецца ўражанне, што ў рэжысёра нібы «сышла глеба з-пад ног». Парадаксальная рэч – Пінігін мае аграмадны прафесійны вопыт, але складваецца ўражанне, што сёння яму няма аб чым гаварыць, і, падымаючы «модную», але цалкам пустую драматургію, рэжысёр нібыта і не задумваецца, пра што і навошта ён яе ставіць. А зрэшты падобныя «добра склепаныя, самаігральныя, інтрыжныя», з дазволу сказаць, п'есы, дзе ўсе праблемы не сягаюць межаў ложка, не патрабуюць такога нешэраговага рэжысёрскага таленту, які мае Пінігін.

## Альтэрнатыўны тэатр

Зрэшты, росквіт тэатральнай рэжысуры гэтага часу, безумоўна, не мог умясціцца ў кананічныя рамкі дзяржаўных тэатральных структураў, але прыватныя праекты, як бачна з вышэй напісанага, не заўсёды мелі высокамастацкі характар і тым больш не працавалі на нацыянальны культурны кантэкст. Хутчэй за ўсё падобныя праявы былі выкліканы ўсеагульнай вульгарызацыяй грамадства да хісткасцю духоўных каштоўнасцей у канцы 90-х гадоў. Грамадскія працэсы ў гэты час развіваліся вельмі паскорана, і калі ў канцы 80-х недзяржаўны тэатр адыгрываў станоўчую ролю ў культурна-грамадскім жыцці краіны, быў правадніком прагрэсіўных грамадскіх ідэй, то к канцу 90-х ён стаў рабом у першую чаргу густу вульгарнай публікі (я ўжо маўчу аб эканамічных аспектах развіцця гэтай з'явы).

Але пагаворым усё ж такі аб тым, што ўсё-ткі мела сапраўдны мастацкі кантэкст у прыватных тэатрах.

Найперш варта сказаць пра Альтэрнатыўны тэатр, які ўжо самой назвай паказваў нетрадыцыйнасць у падыходзе да рэжысёрскай і мастацкай эстэтыкі, і пра творчасць ягонага заснавальніка, мастацкага кіраўніка і рэжысёра Вітаўтаса Грыгалюнаса. Відавочна, маючы яркі мэнеджэрскі дар, рэжысёр знайшоў фінансаванне пад свае творчыя праекты і зарганізаваў уласны тэатр, суадносны размаітаму інтэлектуальнаму кантэксту беларускай сталіцы. Такія спектаклі Грыгалюнаса, як «Трохграшовая опера» па Б.Брэхту, «Каін» па Дж.Байрану, былі вызначаны яркімі пошукамі ў накірунку ультрамадэрновай эстэтыкі і супалі з агульнаеўрапейскай стылёвай модай пачатку 90-х гадоў на неаавангард.



У гэты ж час пошукамі новых стылістычных формаў займаўся і Рыд Таліпаў, які спачатку нават зарганізаваў незалежную студыю. Але найбольш рэжысёр вядомы яркімі і непадобнымі ні на кога, экстравагантнымі, часам эпатажна-шакіруючымі пастаноўкамі на сцэнах розных гарадскіх тэатраў, сярод якіх самымі выбітнымі сталі «Месяц у вёсцы» па І.Тургеневу (Брэсцкі тэатр драмы і музыкі) і «Стомлены д'ябал» паводле Янкі Купалы (РТБД). Безумоўна, гэты творца мае сваю ярка выражаную паэтычную рэжысёрскую манеру, спектаклі якога не зблытаеш ні з кім. Творчай стылістыцы Таліпава ўласцівыя сюррэалістычна-асацыятыўная вобразнасць і метафарычнасць, абавязковы лёгкі эпатаж публікі, ультрастыльнасць сцэнаграфічных вырашэнняў. Рэжысёр заўсёды смела эксперыментуе з формай і самім драматургічным матэрыялам, але, вырашаючы свае творчыя задачы, ніколі не парушае кантэксту літаратуры.

## «ДзеЯ»

Гэтым, на жаль, вызначаўся ранні перыяд многіх славутых рэжысёраў, у тым ліку і яшчэ аднаго вядомага «паэта сцэны» – Віталя Баркоўскага, які ў сярэдзіне 1980-х разам з Мікалаем Труханам зарганізавалі незалежную тэатральную студыю і заняліся эксперыментамі ў накірунку неаавангарда.

Сам Баркоўскі назваў гэтую стылістыку Пластычным тэатрам, які мусіў у сабе ўвасобіць кактэйль драмы, пластыкі, музыкі і святла. Гэтая тэатральная студыя пазней атрымала статус Мінскага гарадскога тэатра «ДзеЯ». Але на момант свайго заснавання і студыйнага існавання тэатр быў цалкам аддадзены рэжысёрскім эксперыментам з формай двух сяброў-рэжысёраў. Хутчэй за ўсё іх на той момант мала цікавіў непасрэдны кантэкст драматургіі, а менавіта – рэжысёрскія фантазіі паводле яе. Драматургія служыла адпраўным пунктам, нагодай для далейшых рэжысёрскіх пошукаў, а не адзіназнойдзеным матэрыялам для рэалізацыі той ці іншай мастацкай задачы. Гэта ў вялікай ступені абумовіла рэжысёрскую манеру абодвух творцаў, асабліва ў Баркоўскага, якога можна і сёння назваць прапаведнікам рэжысёрскага тэатра.

З узнікненнем тэатра «ДзеЯ» і атрыманнем ім стабільнай базы ў былым кінатэатры «Радзіма» звязана творчае сталенне і росквіт таленту Мікалая Трухана, заслуга якога заключаецца ў вяртанні да сучаснага нацыянальнага кантэксту ўжо вядомай у Еўропе, але забароненай спадчыны класіка беларускага тэатра Францішка Аляхновіча. Створаныя паводле ягоных п'есаў і прозы труханаўскія сцэнарыі і эксплікацыі знайшлі сваё яскравае ўвасабленне ў пастаноўках рэжысёра, самай выбітнай з якіх стаў спектакль «Круці не круці, але трэба памярці». Адным з перакананаўчых увасабленняў расейскай класікі за апошняе дзесяцігоддзе на беларускай сцэне стаў спектакль паводле гогалеўскіх «Мёртвых душаў», але які, на жаль, стаўся апошнім творам таленавітага майстра.

Увогуле, назіраючы творчы і жыццёвы шлях М.Трухана, бачна, што тэма ўнутранай свабоды асобы была асноўнай для рэжысёра, зрэшты, як і для многіх творцаў у ягоным пакаленні, пра што сведчыць шэраг лепшых спектакляў гэтага часу самых розных майстроў сцэны: гэта і «Гамлет» Б.Луцэнка, і «Пад сонцам» В.Маслюка, і «Кар'ера Артура Уі» В.Мазынскага, і той жа «Стомлены д'ябал» Р.Таліпава, і «За зачыненымі дзвярыма» В.Катавіцкага па Сартру, і шніцлераўскі «Карагод закаханых» Грышкевіча, і спектаклі В.Баркоўскага паводле п'ес аднаго з лідэраў сучаснай нацыянальнай драматургіі Алёны Паповай – «Пестуны Фартуны», «Закрытая зона» ў НАДТ імя М.Горкага, «Вандроўкі ў Н'ю-Йорку» у НАТ імя Я.Купалы.

Можна сказаць, што творчы тандэм «Баркоўскі–Папова» сцвердзіў сябе не толькі як адзін з самых цікавых і плённых у сучасным беларускім тэатры, але і адкрыў іншае нешэраговае ўспрыманне рэчаіснасці, якое бярэ свае вытокі ад эпічнасці і мадэрна Ж.Сартра, Камю, Ануя, але, развіваючы традыцыю, стварае свае, непадобныя ні на што, яскравыя набыткі.

## Коласаўская сцэна

Творчасць В.Баркоўскага, безумоўна, звязаная і з пастаноўкамі на сцэне Коласаўскага тэатра, якім рэжысёр кіруе апошні час. Сярод іх найбольш цікавым з'яўляецца спектакль «Шагал, Шагал...» – сцэнічныя імправізацыі і эцюды заснаваныя на матэрыяле жыцця і творчасці геніяльнага беларускага мастака Марка Шагала.

Разважаючы аб рэжысёрах славутага тэатра, нельга не звярнуць увагу на віцебскі перыяд жыцця і творчасці Валерыя Маслюка і яго вучня Антона Грышкевіча – аднаго з самых яркіх рэжысёрскіх з'яваў сучаснай беларускай культуры.

У другой палове 90-х эстэтычныя пошукі В.Маслюка з элітарным падыходам да вобразнасці і нешэраговымі, часам шакіруючымі ультрастылістычнымі рэжысёрскімі вырашэннямі, мелі рэвалюцыйнае значэнне для ўсяго тэатральнага працэсу краіны і прывялі самога майстра да аўтарскага тэатра. Рэжысёр праявіў сябе як цікавы драматург, што выявілася ў сюррэалістычнай містэрыю сучаснасці «Пад сонцам», ультрамадэрновую казку па матывах нацыянальнай міфалогіі «Пакаці гарошак» і, на жаль, апошнюю працу майстра «Люблю, чакаю, спадзяюся... Шлюндра з Гарлема», якую па жанры можна вызначыць, як постмадэрністычны кактэйль з элементамі пластыкі і эстрады на тэму незапатрабаванасці творчай асобы ў сучасным прагматычным свеце.

Працяг будзе

# Славуты Чарльз Бронсан

**Славуты амерыканскі акцёр Чарльз Бронсан сканаў на 82-м годзе жыцця 1 верасня ў Лос-Анджэлесе.**

Нашаму гледачу акцёр стаў вядомы ў 1968 годзе пасля дэманстрацыі фільма «Выдатная сямёрка» і адразу атрымаў шырокую папулярнасць. Яго сапраўднае імя Чарльз Бучынскі. Ён нарадзіўся 3 лістапада 1921 года і быў 11-м з 15 дзяцей у шахцёрскай сям'і эмігранта з Віленшчыны. З усіх дзяцей толькі Чарльз закончыў школу, але пайшоў працаваць з братамі на шахту, каб дапамагчы бацькам. У часе Другой сусветнай вайны Бучынскі служыў у авіяцыі кулямётчыкам на бамбавіку, а пасля скарыстаў свой ваўчар удзельніка баявых дзеянняў, каб вывучаць мастацтва ў Філадэльфіі. Тут ён зацікавіўся тэатрам, і адзін з настаўнікаў рэкамендаваў яго рэжысёрам. У 1951 годзе ён дэбютаваў у карціне «Цяпер ты на флоце». З таго часу Бронсан зняўся болей чым у 70 карцінах. Іграў «крутых хлопцаў», індзейцаў (дзякуючы знешнасці). Першую «зоркавую» славу яму прынесла «Выдатная сямёрка», знятая ў 1960 годзе. Пасля гэтага былі «Вялікія ўцёкі», касавы хіт «Брудны тузін», асабліва папулярны ў Еўропе фільм «Бывай сябра», дзе ён зняўся з Аленам Дэлонам. Класічны вестэрн «Аднойчы на Дзікім Захадзе» прынёс Бронсану шырокую міжнародную вядомасць.



Амерыканскай «суперзоркай Чарльз Бронсан стаў пасля фільма рэжысёра Майкла Уінера «Прага смерці», дзе ён сыграў галоўную ролю. Гэты фільм часта крытыкавалі за шматлікія сцэны насілля, але Бронсан у 1987 годзе заявіў:

«Я думаю яны дастаўляюць задавальненне тым людзям, якія сталі ахвярамі злачынцаў і беспасьпяхова патрабуюць ад уладаў абараніць іх». Бальшыня роляў Бронсана – высакародны абаронца пакрыўджаных. Такім ён і застанецца ў памяці гледачоў і ў гісторыі кіно.

У 1971 годзе Чарльз Бронсан быў узнагароджаны «Залатым глобусам» як самы папулярны акцёр на свеце

**Святлана МАРКЕВІЧ**

# Музеі шпіянажу

У Вашынгтоне паблізу штаб-кватэры ФБР у 5 офісных будынках дзейнічае «Міжнародны музей гісторыі шпіянажу». Заснавальнікам музея стаў мульцімільянер Мільтон Мальц, які інвеставаў у праект 40 мільёнаў даляраў. Мальц – сын эмігрантаў з нашай краіны, у 1960-я гады ён працаваў у Агенцтве нацыянальнай бяспекі, а потым у ЦРУ ЗША.

Былыя супрацоўнікі ЦРУ і ФБР сабралі па ўсіх краінах болей за тысячу рэчаў экіпіроўкі, спецтэхнікі і зброі, якімі карысталіся «рыцары плашча і кінжала». У музеі выстаўлены, напрыклад, пісталет у выглядзе цюбіка губной памады, «жучкі» ў абцасах жаночых пантофляў, фотакамеры ў гузіках, цыгарэты з «начыннем», парасон-забойца, аўтаручка «Манблан» з мікрафонам і шмат што іншае, што скарыстоўвалася ў «тайнай вайне». Сярод экспанатаў можна пабачыць знаёмае па серыялу аб прыгодах Джэймса Бонда ўнікальнае прыстасаванне «скай хук» (нябесны крук). Агент, які выканаў заданне, падымаўся на пэўную вышыню на паветраным шары, дзе яго з дапамогай «скай хука» падхопліваў самалёт. Мала хто ведае, што амерыканцы здзейснілі рэальнае баявое прымяненне гэтага «крука», калі капітан ВМС ЗША скончыў даследаванне рэштак базавага лагера савецкай палярнай дрэйфуючай станцыі СП-6. Мае музей і натурныя экспанаты – ад рабочага кабінета Фелікса Дзяржынскага на Лубянцы да макета знакамітага падземнага тунеля, пракладзенага АНБ ЗША з Заходняга ва Усходні Берлін з мэтамі тэхнічнай разведкі. Разгорнутыя ў музеі таксама спецыяльныя экспазіцыі аб жанчынах-агентах спецслужбаў, найбольш вядомых у свеце шпіёнах і разведчыках.

На ўваходзе наведвальнік можа стаць «умоўным шпіёнам» і запомніць адну з прапанаваных «легенд». «Раскалваць» будуць каля шматлікіх манітораў, якія знаходзяцца ў залях музея. Там наведвальнікі знойдуць электронныя шпіёнскія гульні («Як падмануць ахову», «Як адарвацца ад «хваста» і т. п.), рэальную экіпіроўку. Папулярнасцю карыстаецца не толькі сам музей, але і сувенірны



магазін пры ім, дзе можна набыць фотаапарат у выглядзе піўной бляшанкі, шарыкавыя асадкі з нябачнымі чарніламі (прачытаць напісанае можна з дапамогай інфрачырвонага вылучэння) ды іншыя арыгінальныя рэчы шпіёнскага прызначэння.

Апроч гэтага сталічнага на поўдні ЗША, у Фларыдзе, ёсць яшчэ Музей гісторыі шпіёнскай тэхнікі. Яго стваральнік і захавальнік – амерыканскі бізнесмен, уладальнік сеціва рэстаранаў «хуткага харчавання» Кіт Мэлтан. Ён вучыўся ў Ваенна-марской акадэміі ЗША, служыў на флоце, а пасля выхаду ў адстаўку стаў ваенным гісторыкам і экспертам у галіне спецыяльных тэхнічных сродкаў, якія выкарыстоўвалі выведкі розных краін. Ягоным хобі стала збіранне калекцыі шпіёнскага абсталявання і прыладаў, літаратурных крыніц і дакументаў, прысвечаных вядомым выведчыкам і дыверсантам, ну і зразумела самым знакамітым аперацыям. З цягам часу калекцыя ператварылася ў сапраўдны музей, дзе можна пабачыць мініяцюрны «Кодак», выкананы як дакладная копія пачка запалак, і аднамесную падводную лодку для правядзення спецыяльных аперацый ля пабярэжжа праціўніка.

Найбольш уражвае экспазіцыя музея Кіта Мэлтана, прысвечаная фатаграфічнай і капіравальнай тэхніцы. Таленавітыя інжынеры сканструявалі мноства мініяцюрных, замаскіраваных фотаапаратаў. Ёсць сярод узораў і вядомыя нам па назвах. Напрыклад, 16-міліметровы «Кіеў-30» змешчаны ў металічны корпус, які імітуе цыгарэтны пачак. Перамотка плёнкі здзяйснялася з дапамогай адной з фальшывых цыгарэт. Але былі ў пачку і сапраўдныя – для перакапальнасці. Ёсць тут і яшчэ адзін твор КДБ – фотаапарат «Кропка-58», які шпіён, разведчык ці апаратыўны супрацоўнік мацаваў на целе, а фатаграфаванне адбывалася праз булаўку для гальштука. У камплект уваходзілі дзве аднолькавыя булаўкі: адна для здымкаў, другая для штодзённага ўжытку.

Ёсць Музей шпіянажу і ў Фінляндыі ў курортным горадзе Тамперэ. Ён займае непрыкметны двухпавярховы дамок, і толькі рэкламная шыльда з чорнай выявай чалавека ў плашчы, шляпе і з парасонам сведчыць, што гэта «шпіёнскі асяродак». Стваральнік гэтага музея Тэпо Тур'я – бізнесмен. Ён узначальвае рэкламнае агенцтва, якое займае ў доме другі паверх.

Музей з'яўляецца прыватным і атрымоўвае ад муніцыпалітэта Тамперэ невялікую фінансавую дапамогу. Кожны год музей наведвае каля 10 тысяч цікаўных. Магчыма гэта таму, што горад Тамперэ лічыцца лепшым фінскім курортам, і тут дзейнічаюць 50 розных музеяў.

*Зразумела, што «шпіёнскія» музеі ёсць і ў нас, але яны закрытыя, прызначаныя для спецыялістаў, для «сваіх». А шкада. Можа яны больш цікавыя, чым заморскія.*

**Юрка САВІНІЧ**




# Аматары чужой скульптуры

**Злачынцы, якія ў траўні скралі з Аўстрыйскага мастацкага музея ў Вене скульптуру Бенвенута Чэліні «Сальера», патрабавалі за вяртанне шэдэўра 10 працэнтаў ад яго кошту, які складае 50 мільёнаў еўра.**

Скульптура вышынёй 26 сантыметраў была створана ў XVI стагоддзі і з таго часу ўвайшла ў лік лепшых твораў мастацтва. Яна знікла 11 траўня, калі злачынцы падняліся па драбінах на другі паверх музея, які месціцца ў цэнтры аўстрыйскай сталіцы, узламалі дзверы выставачнай залі і, разбіўшы шкляную горку, бесперашкодна вынеслі «Сальера» ў невядомым кірунку. Пэўны час і паліцыя, і эксперты меркавалі, што яна скрадзена на заказ якога-небудзь багатага калекцыянера і ўжо ўпрыгожвае прыватную калекцыю. Магчыма таксама, што злачынцы не здолелі знайсці пакупніка і вырашылі атрымаць кампенсацыю ад страхавой кампаніі.

У якасці доказу, што «Сальера» знаходзіцца ў іх, злачынцы прыслалі драбніцы золата, якія наскрэблі з асновы скульптуры. Страхавая кампанія пакуль не дае адказу, ці пагодзіцца яна выплаціць шантажыстам выстаўленую імі суму – 5 мільёнаў еўра. Пытанне няпростае не толькі таму, што грошы вялікія, але задаволенне адных злачынцаў адгукаецца актывізацыяй іншых аматараў крадзяжу твораў мастацтва.

**Наталля ГРЫНКЕВІЧ**



# Заробак прыстойных алкаголікаў

**Людзі, якія любяць выпіць, зарабляюць болей, чым непітушчыя. Да такой высновы прыйшлі брытанскія вучоныя.**

У выніку даследавання, прысвечанага вывучэнню ўплыву звычкі да спіртовых напояў на прасоўванне па кар'ернай лесвіцы, было апытана болей за 1.700 рэспандэнтаў ва ўзросце 45 гадоў. На дзіва аказалася, што схільныя да выпіўкі людзі ў сярэднім зарабляюць 13.780 фунтаў стэрлінгаў на год, амаль на 2.000 фунтаў стэрлінгаў болей, чым прыхільнікі цалкам цвярозага ладу жыцця.

Наогул людзі, якія любяць выпіць трымаючыся меры, зарабляюць у сярэднім на 17 працэнтаў болей, чым ворагі алкаголю.

**The Daily Telegraph**

# Клапагон супраць аблысення

**Панацэі супраць аблысення пакуль што няма, і гэтае бяссілле медыцыны трымае мільёны аблыселых людзей у самоце.**

Але нядаўна нямецкія спецыялісты з дэрматалагічнай клінікі універсітэта ў Бохуме выпрабавалі ўздзеянне рэчыва расліннага паходжання на андрагенетычнае (гэта значыць спадчыннае, гарманальна абумоўленае) аблысенне. Дадзенае рэчыва – экстракт клапагону кісцевіднага (па-навуковаму – Cimicifuga racemosa).

У выніку эксперымента, які працягваўся паўгода, колькасць валасоў у 20 удзельнікаў-пацыентаў павялічылася пры адначасовым скарачэнні выпадзення.

Сярод сродкаў, якімі карыстаюцца для лячэння гарманальнага аблысення, лепш за іншыя даследаваны гармон эстраген і актыўнае рэчыва фінастэрыд. Тэрапія з выкарыстаннем эстрагену часта дае добрыя вынікі. Аднак яна можа суправаджацца непажаданымі для мужчын пабочнымі эфектамі, напрыклад, праявай жаночых палавых прыкмет. Фінастэрыд тармозіць дзеянне фермента, які ўдзельнічае ў выпрацоўцы рэчыва, якое садзейнічае выпадзенню валасоў. Але пакуль невядома, чаму гэтае рэчыва абумоўлівае аблысенне галавы, а бараду і вусы не кранае.

**Інга КАЗЛОВІЧ**

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас:220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: nchas@promedia.by

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
Камп'ютэрная вёрстка Андрэй Дзегцяроў

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 1678
Падпісана да друку 09.09.2003 (12:00).
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11